№ 4 (213) 22 студзеня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# АЛЬТЭРНАТЫВА ЛУКАШЫЗМУ

**Сярод прэтэндэнтаў на прэзыдэнта беларускамоўных няма. Пазьняк фармальна ня мае права вылучацца, бо ня жыў у Беларусі, і пакуль ніхто не знайшоў, як ён можа абысьці гэтую рагатку. Іншыя белмоўныя палітыкі й грамадзкія дзеячы пакуль ня маюць прэзыдэнцкіх амбіцыяў. Белмоўныя выбарцы апынуліся перад цяжкім выбарам – каго ж у такой сытуацыі падтрымаць. У 1994 г. мелі на выбар Пазьняка й Шушкевіча.**

А цяпер усё па-іншаму. На тамтыя выбары самыя папулярныя кандыдаты ішлі пад лёзунгам скасаваньня нацыянальнае незалежнасьці. Цяпер ніводзін кандыдат ня робіць гэта цьвіком праграмы. І гэта, і адсутнасьць белмоўнага кандыдата – як люстэрка беларускае цяперпішчыны. Краіна стае ўсё больш сатэлітна-незалежнаю і ўсё менш беларускаю.

Канкураваць будуць ня гэтак эканамічныя праграмы, колькі проста аблічы і характары. Людзям прапануецца рабіць выбар сэрцам. Усе статыстычныя выкладкі ў гэткай сытуацыі маюць мала значэньня проці іміджу кандыдата і ягонага мінулага.

Сёньня рэшкаю Лукашэнкі-арла, па вялікім рахунку, застаецца Пазьняк. Ягоная самаадданая беларускасьць, ягонае патрабаваньне маральнае палітыкі. Але Пазьняк ня змог разбурыць навешаны на яго нэгатыўны імідж, ухіліўся ад рэальнае палітыкі і месца сымбалічнае альтэрнатывы фактычна стаіць незанятае. З выбараў магла б выйсьці новая сымбалічная фігура альтэрнатывы лукашызму. Ня столькі Лукашэнку як палітыку, лукашызму – як палітыцы, як культуры мысьленьня. Бо нават калі Лукашэнка прайграе, лукашызм як спадчына і палітычная стратэгія нікуды не падзенецца і вельмі хутка возьме рэванш, калі яму ня будзе проціпастаўленая стваральная праграма. Інакш посьпех на выбарах будзе выпадковым, дасягнутым дзякуючы гапе ці разьліку Масквы, і ён вельмі хутка пераверненца ў паразу, прынясе яшчэ большае расчараваньне і дэбеларусізацыю.

Альтэрнатыву лукашызму мог бы ўвасобіць Дабравольскі, але ён не наважыўся вылучыцца. Сярод тых, хто ідзе на выбары, такой альтэрнатывай можа стаць Домаш. Усе астатнія ўспрымаюцца як "кандыдаты супраць", а не "кандыдаты за". Aut Домаш, aut nihil – такое ўражаньне ствараецца сёньня. Хоць і Домаш пакуль не заваляваў народнай падтрымкі. Во ж і вылучылі яго ўпершыню ня ў родных Тумашах, а ў раскошнай канфэрэнц-залі гатэлю "Беларусь".

Прадстаўнікі 30 грамадзкіх арганізацыяў, блізкіх да партыяў з КРДС, сабраліся там, каб урачыста заклікаць дэмакратычныя сілы абвесьціць адзіным кандыдатам Домаша. Тым ня менш, КРДС на чарговым пасяджэньні зноў не дамовілася пра адзінага кандыдата. Уся надзея на Кангрэс Дэмакратычных Сілаў, што пройдзе на пачатку сакавіка. Аднак партыі КРДС відавочна схіліліся на карысьць Домаша. Гэта нэрвуе Чыгіра й Ганчарыка.

Уладзімер Ганчарык заявіў у інтэрвію "БДГ". што не прэтэндуе на ролю адзінага кандыдата ад патрыятычна-дэмакратычнага блёку на чале з КРДС. Ён хоча вылучацца не ад "палітычнай апазыцыі", а ад "людзей, што не ўваходзяць ні ў якія партыі". Ганчарык разумее, што шанцаў знайсьці падтрымку дэмакратаў у яго вобмаль, але хоча ўзяць удзел у кампаніі. Яму 60 гадоў, і другога такога шанцу ў яго ня будзе. Дэмакраты ж ня вераць, што чалавек, які пасьпяхова абараняў правы працоўных 15 гадоў, зможа здабыць падтрымку тых самых працоўных.

Чаго чакае Масква ад альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў, паказаў сам наш "правадыр" у інтэрвію расейскаму тэлеканалу "Культура". Ён ізноў абражаў беларускую мову як недастаткова разьвітую, беларускую культуру як няздольную існаваць без жыватворных сувязі з расейскай і беларускамоўных палітыкаў як фашыствуючых нацыяналістаў. Дык ці патрэбны апанэнтам Лукашэнкі ярлык на княжаньне, атрыманы з рук Масквы такою юдавай цаной?

Такое ўражаньне, што тое хамства было нагвалт патрэбнае Лукашэнку, каб ад нечага абяліцца, даказаць вернасьць Расеі. Якраз перад таямнічаю здачаю Барадзіна ў рукі правасудзьдзя. Лукашэнка кажа, што сам яго адправіў у ЗША. Значыць, гэта ён фактычна падставіў свайго "дзяржсакратара", а ў рахунках "Мабэтэксу" подпісы Лукашэнкі не фігуруюць?

Тымчасам у Менску спрадвечны "Барадзінскі" хлеб перайменавалі ў "Кулікоўскі". Вось і ўсе перамены за тыдзень.

**Барыс Тумар**



Айцу Ўладзіславу Чарняўскаму - 85 гадоў.

Старонка 5.

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

У сьнежні-студзені на выданьне "Нашай Нівы" ахвяравалі: **Івонка Сурвілла**, **Юзэфа Баран**, **Кастусь Акула** (Канада), **Мэва Марон** (Вялікая Брытанія), **Лявон Шыманец** (Францыя), **Моніка Банькоўская-Цюліг** (Швайцарыя), **Юрка Станкевіч**, **Сяргей Абламейка** (Чэхія), **Эльжбета Смулкова** (Польшча), **Сяргей Папоў** (Расея), **Вячка Станкевіч**, **Кацярына Вініцкая**, **Алесь Субота** (ЗША), **Міхась Лужынскі** (Аўстралія). Мы заўдзячваем выхад газэты гэтым дабрачынцам.



# Павал Жук: жыцьцё пад агнём

**Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па частцы 1 артыкулу 367 Крымінальнага кодэксу – паклёп на прэзыдэнта. Нагода – публікацыя ў Інтэрнэце ды газэце "Наша Свабода" "лекарскага заключэньня" доктара-псыхіятра Зьмітра Шчыгельскага пра псыхічную хваробу Лукашэнкі.**

Артыкул прадугледжвае пакараньне — або штраф, або пазбаўленьне волі на тэрмін да 4 гадоў. Зьміцер Шчыгельскі ад 1998 г. у Амэрыцы, а вось Павал Жук, рэдактар "Нашае Свабоды", у Менску. Ён не выключае, што яго могуць арыштаваць з дня на дзень, але краіны пакідаць не зьбіраецца. Калі арыштуюць, кажа ён, хай тады правядуць псыхічную экспэртызу, каб высьветліць, быў паклёп ці не, здаровы Лукашэнка ці ўсё ж слабы на галаву.



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Лукашэнкава адміністрацыя зачыніла дзьве газэты Паўла Жука – "Свабоду" і "Навіны", ягоную друкарню "Палімарк", забараніла выданьне сатырычнага аркушу "Стынгер". Газэту "Навіны" судзілі за паклёп на Шэймана і пусьцілі з торбай, наклаўшы страшэнны штраф. Менавіта ў газэтах Паўла Жука зьявілася народная паэма "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт" і ліст Беларускага Вызвольнага Войска, якое зладзіла выбух на газаправодзе. Тады таксама ўзбуджаліся крымінальныя справы, але ня супраць Жука пэрсанальна. Жука лавілі пасьля "Маршу Свабоды—1", адным з арганізатараў якога ён быў. У той раз бясстрашнаму выдаўцу і рэдактару ўдалося перахавацца.

Павал Жук нагадвае сваіх землякоў-рагулеўцаў з Навагрудчыны, кавалерыстаў легендарнага «Беларускага шквадрону». Ён пастанавіў сабе весьці змаганьне з дыктатарам да канца. Лявон Юрэвіч назваў сваю кнігу пра Барыса Рагулю «Жыцьцё пад агнём». Пра планіду Паўла Жука лепей ня скажаш.

**Лёнік Кінкель**

# ПТВ беларушчыны

**Беларускае адраджэньне пачатку 90-х выявілася багатым на праекты й парываньні, аб'яднаныя памкненьнем узяць рэванш за мінулыя паразы, выхапіць у стагодзьдзя апошнюю магчымасьць рэалізацыі ўсяго няспраўджанага. Менавіта таму на 2000 і 2001 гады прыпадае столькі настальгічных дзесяцігадовых юбілеяў — дзяржаўнасьці, вяртаньня сымболікі, Закону аб мовах. Сярод іншых падставовых падзеяў таго часу была спроба стварэньня сыстэмы нацыянальнай адукацыі. Яна распачалася заснаваньнем Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтру, што, пасьля доўгага блуканьня па пакутах, трансфармаваўся ў Беларускі дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, які мусіў быць прыступкай зь беларускай школы ў беларускі ўнівэрсытэт. Аднак апошняя, калі й існуюць сёньня, дык толькі ў нашых мроях... Праблемы нацыянальнай адукацыі — у гутарцы з намесьнікам дырэктара ліцэю па навучальнай частцы сп.Лявонам Баршчэўскім.**



**Лявон Баршчэўскі: «Сярод выпускнікоў ліцэю літаратары Міхась Баярын і Сяргей Патаранскі ўжо выдалі свае кніжкі. Павал Баркоўскі, філёзаф, друкуецца ў часопісе «Фрагмэнты». У папулярным маскоўскім сэрыяле "Ускоренная помощь" адну з роляў грае наш выпускнік Раман Падаляка. Вера Шыпіла — актрыса ў Тэатры беларускай драматургіі. Сяржук Сматрычэнка — перакладчык. Ільля Сін — адзін з заснавальнікаў «Бум-Бам-Літу». Старшыня «Маладой грамады» — Тацьцяна Алесіна. Старшынём Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў быў Алесь Міхалевіч. Журналістаў шмат — Багдан Арлоў, Марыя Шахаўцова, Віктар Мухін, Ірына Тоўсьцік. Паэтаў шмат — у часопісе «Першацьвет» увесь час нашы... Сьпіс вельмі вялікі. Больш, чым можна было чакаць».**

...Ствараючы ліцэй, мы намагаліся зрабіць яго ня толькі беларускамоўным, але і, у першую чаргу, несавецкім. Я бачыў беларускія гімназіі ў Барысаве, Маладэчне. Там нават пэднарады па-беларуску праходзяць, аднак невынішчальны дух савецкасьці адчуваецца вельмі моцна. Таму многія беларускамоўныя школы і існуюць толькі на паперы. Ня могуць савецкія дырэктары і настаўнікі раптам зрабіцца беларусамі. Гуманітарны ліцэй унікальны ў гэтым пляне. Другая нашая ўнікальнасьць: 60% выкладчыкаў — мужчыны. У іншых навучальных установах — за выняткам хіба што прафтэхвучэльняў — такога прэцэдэнту няма.

**— Якіх бацькоў дзеці вучацца ў Гуманітарным ліцэі?**

— Збольшага дзеці тэхнічнай інтэлігенцыі. У Савецкім Саюзе яна была на найвышэйшым узроўні — пэрспэктывы, ведаеце, ВПК... І многія, хоць у душы і былі гуманітарамі, як Шушкевіч, але вучыліся на фізіках. І таму яны найбольш актыўна нам пастаўлялі і пастаўляюць сваіх дзяцей на вучобу. Ёсьць, натуральна, гуманітарная інтэлігенцыя, дзеці рабочых і сялянаў — і даволі многа. (Увогуле, у нас з па-за Менску вучацца больш за 20 дзяцей — у межах, куды даходзяць электрычкі, бо інтэрнату свайго ня маем). Ну і дзеці дзяржаўных чыноўнікаў — супрацоўнікаў палаты прадстаўнікоў, Канстытуцыйнага суду. Вось сын сп.Марыскіна, напрыклад, сёлета пасьпяхова скончыў ліцэй. А быва б іншая палітычная абстаноўка — дык усе яны пааддавалі б свае дзеці да нас.

**— Многія ліцэісты ў сем'ях размаўляюць па-расейску. Ці адчуваецца ад гэтага ў ліцэі нейкі псыхалягічны дыскамфорт?**

— Нельга сказаць, што ў нас расейскамоўных вучняў зараз зрабілася болей, чым было на пачатку 90-х. Прыкладна тая самая колькасьць дзяцей карыстаецца расейскай мовай — калі выкладчыкі ня чуюць. Прынамсі, пры мне яны імкнуцца гаварыць па-беларуску. Ніякі дзіцячы садок, ніякая школа і ніякі ліцэй ня зробіць чалавека беларусам — сьвядомым, беларускамоўным, калі няма адной з двух умоваў: або ў яго сям'я беларускамоўная, або ён робіць нейкі сьвядомы выбар, мае моцную волю, характар, стрыжань і можа ісьці насуперак сваёй сям'і. На жаль, тэстаў на сілу волі мы не праводзім, але сыстэму прыёму ўвесь час удасканальваем і думаем, як бы меней «саўка» трапіла. Але трапляюць і такія. Даволі істотная праслойка. Мы хочам шырока сказаць пра нас і пра беларускамоўную адукацыю — давесьці, што па-беларуску можна атрымліваць нармальныя веды і быць напераддзе.

**— Што, па-вашаму, мае больш значэньне — беларускамоўнасьць або ўласна беларускасьць? Як Вы ставіцеся да расейскамоўных нацыянальна сьвядомых беларусаў?**

— Я разглядаю іх моўную пазыцыю як пераходны этап. Калі яны ўсьведамляюць сябе беларусамі, патрыётамі, яны непазьбежна рана ці позна вывучаць мову і будуць ёй карыстацца — няхай не ва ўсіх, але, прынамсі, у многіх жыцьцёвых сытуацыях. Можа я скажу крамолу, але калі на краме будзе напісана з памылкай «Овашчы» — гэта будзе лепей, чым калі гэта будзе па-расейску. І калі ёсьць трасянка — няхай будзе трасянка, галоўнае, каб чалавек усьведамляў сябе беларусам, а пытаньні культуры мовы — яны складаныя, стагодзьдзямі ўмацоўваюцца. Перш-за ўсё — самаідэнтыфікацыя, а астатняе прыкладзецца, у тым ліку й цікавасьць да мовы.

**— А з чым сябе ідэнтыфікаваць? Напрыклад, ва Ўкраіне зараз на дзяржаўным узроўні падтрымліваецца этнаграфічна-побытавы варыянт патрыятызму.**

— Наш ліцэй адразу ствараўся як эўрапейская, несавецкая, беларуская ўстанова, і за ўзор браліся францускія пляны й праграмы, дастасаваныя да нашай рэальнай сытуацыі. І ў нас тут калаўротаў, веялак, куткоў этнаграфічных няма. Я не выключаю, што ў якой-небудзь Вялейцы на гэтай аснове яшчэ можна нешта збудаваць, але ў цэнтры Менску — гэта небясьпечны шлях. Дзеці гарадзкія прыходзяць, яны кампутарам валодаюць, Інтэрнэтам... Канечне, ёсьць дысцыпліна адмысловая, мы там тлумачым, якая прылада для чаго прызначалася, паказваем малюнкі — проста каб дзеці ведалі. Але арыентуемся мы на іншае — на ўзровень нармальнага элітнага эўрапейскага ліцэю.

**— Як Вы ставіцеся да ідэі стварэньня Нацыянальнага ўнівэрсытэту?**

— Ідэя пэрспэктыўная, аднак патрабуе базавай адпрацоўкі. Адным махам унівэрсытэту ня зробіш. У нас на гэты момант напрацаваная канцэпцыя для ліцэю — мы ведаем, чаму вучыць і як. Зьмяніцца палітычная і эканамічная сытуацыя, вынікне патрэба падзяліцца досьведам — мы ўжо ведаем, што рэкамэндаваць. Дарэчы, адсутнасьць канкрэтных мэтадычных беларускамоўных распрацовак складае сёньня вельмі вялікую праблему, бо настаўнікі любяць гатовыя ўзоры. Даюць ім беларускамоўныя распрацоўкі Шэкспіра — яны выкладаюць Шэкспіра па-беларуску. Калі іх бракуе — карыстаюцца расейскімі.

**— Чаму нацыянальным унівэрсытэтам ня стаў Беларускі калегіюм?**



Уладзімер Шлапак

**У 1990 г. у Радзе ТБМ Савецкага раёну Менску стварылі ініцыятыўную групу ў складзе кінарэжысэра Ўладзімера Коласа, кандыдата мастацтвазнаўства Вячаслава Ракіцкага, прафэсара гісторыі Міхася Ткачова, народнага дэпутата БССР Алега Трусава і выкладчыка Менскага пэдунівэрсытэту Вінцука Вячоркі. Вынікам яе дзейнасьці сталася ўтварэньне Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтру, а пры ім — нядзельнага (для дзяцей старэйшага школьнага веку) і вечаровага (для дарослых) ліцэю. 23 верасьня пастановай Міністэрства адукацыі стварылі дзённае аддзяленьне. 15 студзеня 1992-га цэнтру быў перададзены будынак на Кірава, 21. За яго ў 1997–98-х г. ліцэю давялося весьці барацьбу. З 10 ліпеня 1998 г., па рашэньні Саўміну, замест БГАКЦ функцыянуе Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа.**

— Акудовіч з самага пачатку казаў, што калі вучоба не дае нейкага выхаду, нейкага сэртыфікату зь дзяржаўнай адзнакай — энтузіязм студэнтаў хутка зьнікае. Бо можна тыдзень-два слухаць нейкія курсы, а калі гэта цягнецца пару гадоў, а канкрэтнай канчатковай мэты няма — не стае ні сілаў, ні энтузіязму. І таму мы, напрыклад, трымаемся за тое, што мы — дзяржаўная ўстанова, выдаем атэстат дзяржаўнага ўзору. Гэта прыцягвае вучняў.

Акрамя таго, павінна быць база. Мы па крупіцах стваралі бібліятэку — пасьля бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лёндане лепшай беларускай бібліятэкі ў сьвеце няма. І гэтым павінен быў займацца Калегіюм. Трэ думаць пра базу, пра катэдры. На жаль, іх фінансы, відаць не дазваляюць ім гэтага зрабіць. Ішлі перамовы, каб ён працаваў на базе ліцэю, але на той час мы самі былі ў вельмі цяжкай сытуацыі, нас выганялі з будынку, і магчымасьці пусьціць да сябе Калегіюм не было.

**— Што дапамагло ліцэю ўтрымацца на Кірава, 21?**

— Гэтае месца мела для нас надзвычайнае значэньне, бо без свайго будынку, і тым больш без гістарычнага будынку, ліцэй ня здолеў бы стаць тым, чым стаў. Такія ўстановы нельга зьмяшчаць у савецкіх школах. Сама атмасфэра павінна спрыяць таму, каб дзеці адчувалі сябе трошкі іншымі ад звычайных «сярэднестатыстычных» вучняў. А ўтрымацца дапамаглі два чыньнікі. Па-першае, за дзьвюма сотнямі дзяцей стаяць чатырыста бацькоў. Для ўлады раздуваць гэтую сытуацыю далей было небясьпечна. Мы за дзьве гадзіны пікету зьбіралі па чатырыста подпісаў выпадковых людзей. Прычым падпісваліся і малайцы, і кітайцы... Усе разумелі, што дзеці й бацькі бароняць права вучыцца. Падругое — я сам, праўда, ня бачыў — але ёсьць чыноўнікі, якія бачылі на скарзе, скіраванай у выканаўчы сакратарыят СНД, рэзалюцыю Барыса Беразоўскага: «Разабраться». А для беларускіх чыноўнікаў подпіс маскоўскага начальніка заўсёды быў галоўным, вырашальным фактарам, і пасьля гэтага справу патроху закрылі. Дый у дзяржаўных структурах былі й ёсьць людзі, якія нам дапамагаюць. Часам паперу, скіраваную супраць нас, хавалі кудысьці далёка пад сукно, і яна гублялася з канцамі. Зь Міністэрствам адукацыі ў нас праблемаў ніколі не было. Яны разумеюць значнасьць ліцэю — установы, што паўстала з ініцыятывы прыватных асобаў і дае не абы-які плён. Дзяржаўныя інстытуцыі ў гэтай сытуацыі пазбаўленыя магчымасьці ствараць — яны могуць толькі дапамагчы, падтрымаць неафіцыйна альбо, прынамсі, не перашкаджаць. Альбо надрукаваць дапаможнікі. За апошнія гады выйшлі вельмі неблагія беларускамоўныя падручнікі па хіміі, біялёгіі, матэматыцы. І гэта мае надзвычайнае значэньне, бо, калі ганарар за падручнік складае 80 даляраў, ня думайце, што ўсе кідаюцца і пішуць.

**— Ці падтрымліваецца ў ліцэі традыцыя Дня мовы, прапагандаваная калісьці «НН»?**

— Калі вы пісалі пра Дзень мовы, у другі дзень кожнага месяца мы вучням пра гэта нагадвалі. Потым вы перасталі згадваць, і мы пачалі забывацца. Хаця, вядома, для нашага ліцэю гэта ня так актуальна — у нас тут усе дні павінны быць днямі мовы. Іншае пытаньне — ці гаворыць чалавек па-беларуску за межамі навучальнай установы. Многія не баяцца. Дарэчы, колькасьць беларускамоўных вучняў не зьмянялася, незалежна ад палітычнай каньюнктуры, ні за часоў Шушкевіча, ні за Лукашэнкі. З 22 вучняў групы каля 8 карыстаюцца мовай ня толькі на ўроку.

**Запісаў Андрэй Скурко**

---

**Рыгор Барадулін**

## Са стагодзьдзя ў стагодзьдзе

*Беларускаму дзяржаўнаму гуманітарнаму ліцэю імя Якуба Коласа – на падлеткавы юбілей*

Ліцейны цэх,
Ен гартуе мэтал.
Ліцэйны сьмех,
Ён шматуе пыху.
Гранітны абрушыцца п'едэстал,
Калі ўзвышае ён помнік ліху.

Ліцэй Беларускі:
Гартуе ён
Дух незацугляны і дужы.
Рунецьме плён
Няскораных дзён,
Адчыняцца,
Каб айчыніцца, душы.

Ад ваўкалацтва
З усіх панацэй
Адзіная дзейсная панацэя –
Супрацьхалуеўскі
Вяльможны ліцэй,
Дзе подласьць і здрадніцтва
Не сыцее.

Што ж, цемра сьляпая,
Гусьцей і люцей.
Даўно пад табой
Падгнівае калодзьдзе
Жыве Беларусь!
(Чуеш ты, ліхадзей?)
Жыве Беларусі Вольны Ліцэй,
Пераходзячы са стагодзьдзя ў
стагодзьдзе!

## Беларускаму Ліцэю

**Дарагія сябры й аднадумцы — стваральнікі Ліцэю, настаўнікі, выпускнікі й, ведама, цяперашнія ліцэісты!**

Арыстотэлеў *Λύκειον* – Найпершы Ліцэй – для старажытных грэкаў быў сугучны Апалёнаваму эпітэту *Λυκεγενής* – "Сьвятлародны". Беларускі Ліцэй паўстаў да жыцьця, каб несьці сьвятло Беларушчыны ў сьвет, а сусьветную культуру вучыць спасьцігаць беларускімі вачыма. І ўжо сёньня бязь некалькіх пакаленьняў ліцэйскіх выпускнікоў нельга ўявіць сабе сучасную беларускую навуку, культуру, грамадзкую чыннасьць, палітыку. Так кшталтуецца новая беларуская інтэлектуальная эліта, якую нікому больш ня ўдасца выкасіць касою акупацыі ці таталітарных рэпрэсіяў. Усе ведаюць: той, хто прайшоў празь Ліцэй, стаіць і будзе стаяць за Беларусь.

Наш з вамі Ліцэй узьнік у той самы час, калі аднавілася Незалежнасьць. Лёс Незалежнасьці адлюстроўваўся ў лёсе Ліцэю. Злыя сілы хацелі зьнішчыць Ліцэй, але мы з вамі адбаранілі яго – дзеля будучыні Беларусі. І адбаронім!

Жыве Ліцэй! Жыве Беларусь!

**Ад усіх фронтаўцаў,**
**Вінцук Вячорка**




Праекты веку ў Беларусі XX ст.: перавернутыя піраміды бэтону, спыненыя рэкі... З вышыні часу колішнія грандыёзныя задумы і зьдзяйсьненьні выразна падзяляюцца на свае і чужыя. На тыя, што рабіліся з думкай пра гэтую зямлю, яе людзей, іхны дабрабыт, здароўе і славу, і тыя, што задумляліся дзеля невядома чыіх ідэалёгіяў, а гэтай зямлі і яе людзям прынесьлі адно страты. Мы можам ацэньваць тыя праекты па выніках.

Сьпіс грандыёзных задумаў можна дапоўніць сацыяльнымі: калектывізацыя й урбанізацыя, вынішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі й ліквідацыя непісьменнасьці, татальная русіфікацыя. Курапаты – таксама, чым не праект веку? Але ў каго павернецца язык назваць яго беларускім? Калясальны праект – рэформа правапісу 1933 г., якая пазбавіла беларускую мову яе самаўзнаўляльных магчымасьцяў.

У журботным пераліку грандыёзных антыбеларускіх і антычалавечых «зьдзяйсьненьняў» можна знайсьці матывацыі хіба што для падтрыманьня пачуцьця шматпакутнасьці беларусаў. Зірніце ў кнізе рэкордаў Гінэса, чым слаўная ў сьвеце Беларусь: самае вялікае балота, самая вялікая магіла, самая вялікая экалягічная катастрофа... І ўсё.

Маючы такі досьвед зьдзяйсьненьняў – сваіх і чужых – мы можам разважаць і аб праектах будучыні, XXI ст. Пасьля разнастайных акупацыяў папярэдніх вякоў Беларусь можа шматкроць заявіць пра сябе не бэтоннымі будынінамі самых вялікіх вакзалаў, а менавіта аднаўленьнем зьнішчанага і страчанага. Адраджэньнем мовы. Аднаўленьнем гістарычных гарадоў. Вяртаньнем страчаных рэдкіх жывёлаў... Наўрад ці ў рэчышчы нашага душэўнага покліччу будзе стварэньне самай вялікай у сьвеце рэтрансьляцыйнай мачты або самай высокай навагодняй ялінкі, як гэта зрабілі нацыянальна дасьпелыя палякі і літоўцы. Самым галоўным праектам для нас стане фармаваньне самых сябе як паўнавартаснай нацыі – са сваёй іерархіяй каштоўнасьцяў, сьветапоглядам і ўяўленьнем пра сваё месца сярод іншых. Прывядзем у парадак сябе як нацыю, тады зможам гаварыць і пра грандыёзныя праекты на дзіва ўсяму сьвету.

**Сяргей Паўлоўскі**

Сяргей Харэўскі

# Адроджаны зубр

Новы чыгуначны вакзал у Менску — звыклы ўжо шэра-бэтонны даўгабуд — раптам паўстаў у сваім парадным выглядзе. Ад відовішча заняло дух. Сьляпучае сьвятло зь велізарнай шкляной спаруды, нібы палярнае зьзяньне, асьвятляла цёмны, пануры горад за плячыма...

Валтузьня вакол вакзалу пачалася разам з 80-мі. Тады ў падліках атрымлівалася, што праз Менск праяжджаюць мільёны пасажыраў, і з году ў год гэтая плынь мусіць нарастаць. У галовах машэраўскага кіраўніцтва залунала ідэя стварэньня новага вакзалу. Брама краіны, натуральна, мелася быць найбуйнейшай у СССР. І калі ў перастройку інтэлігенцыя пачала выступаць супраць зносу старога вакзалу («Колішні Віленскі — зьберагчы!»), было ўжо позна. Адзінае, што зрабілі за Кебічам, гэта адабралі будаўніцтва ў ленінградзкіх архітэктараў. Тыя пасьпелі зрабіць адно адміністрацыйны корпус з бэтоннай блямбаю невядомага цяпер ужо прызначэньня. Употай ад грамадзкасьці ўрадоўцы з архітэктарамі неяк разабраліся міжсобку. Дакончвалі праект ужо менчукі, пад кіраўніцтвам архітэктара Бялянкіна. Прычым толькі адзінкі зь беларусаў ведалі, чым жа завершыцца гэты даўгабуд, што расьцягнуўся амаль на 20 гадоў...

Ня ведаю, ці чулі будаўнікі менскага чыгуначнага вакзалу пра «Крышталёвы палац», будыніну са шкла, пабудаваную ў Англіі дойлідам Джозэфам Пэкстанам яшчэ ў 1851 г. Але ведаю пэўна, што новым словам у архітэктуры самы вялікі вакзал Беларусі ня стаў. Ня сталі гэткім «словам» і астатнія архітэктурныя «праекты стагодзьдзя», задуманыя за Машэравым, які сам надта любіў слова «эпахальна», і ледзь-ледзь закончаныя цяпер. Самы вялікі ў СССР аэрапорт, праўда, гэтак і не паднялі. Пагатоў і лётаць пакуль мала хто можа. Не дарабілі мэтро, бо яно па-ранейшаму стратнае. Гэтак званая 3-я лінія пакуль існуе толькі ў крозах. Не далі Мусінскаму разгарнуцца па ўсёй Нямізе, дакладней, ізноў не хапіла грошай. Пабудавалі толькі палову ягонага праекту. Дый той давяршаць давялося ўжо «Макдональдзу».

А вось Палац рэспублікі стаіць. Праўда, ня гэтак, як хацелі ягоныя будаўнікі. Адзін з праектантаў, Шабалін, наракаў: «Сёньня, як гэткага, ансамблю галоўнага пляцу гораду няма. Пляц падзелены трыбунай, балюстрадай і сквэрам на дзьве часткі. Яго трэба візуальна пашырыць, каб добра было відаць Цэнтральны Камітэт кампартыі». У тым ЦК КПБ цяпер прэзыдэнтура, а Палац, які прывязваўся да таго будынку й пануе цяпер над навакольлем, і праўда стаіць абы-дзе. Прынамсі, галоўным пляцам гораду гэтае месца не назавеш...



Ня надта пашанцавала беларускім дойлідам на мяжы XX і XXI стагодзьдзяў. Будавалі, праектавалі нешта, як той казаў, «эпахальнае». А ў выніку — усё недаробленае. Дый славы няма. Нашмат больш пашанцавала іхным папярэднікам. Задумаў Лангбард Дом ураду, Дом афіцэраў ды Опэру. Няма праблем! Зруйнавалі дзясяткі кварталаў, пусьцілі на друз 5 цэркваў, расчысьцілі пляцы... Усе будоўлі занялі толькі 5 гадоў! І Менск зьмяніўся радыкальна. Зьмяніўся б яшчэ болей, ажно нешта ня зладзілася... Раптам прыдумалі перанесьці сталіцу Беларусі ў Магілёў. Нагадаю, Менск тады быў пад самай польскай мяжою. І пагаворвалі, што палякі з Радашкавічаў могуць дастрэліць прамой наводкай. Словам, трэ было сытуацыю акругліць. І калі ў 36-м выйшла пастанова пра перанос сталіцы, яе пабудавалі за 2 гады! Чым не праект веку? У Магілёве расчысьцілі калясальны, нават па цяперашніх мерках, пляц ды стварылі плошчу з грандыёзным архітэктурным комплексам у духу найноўшага, як на той час, стылю — канструктывізму. Сюды ўжо перавялі былі НКВД, ведамствы, пачалі зьбіраць нацыянальны музэй, куды патрапіў, між іншым, і адкуль зьнік назаўсёды Крыж Эўфрасіньні Полацкай. Але раптам усё павярнулася ў іншы бок. Была растаптаная Польшча, і БССР прырасла з Захаду. Сталіцай застаўся Менск.

Нямала «праектаў стагодзьдзя» выдумлялася ў міжваенны час і па заходні бок мяжы. Самы грандыёзны — пабудова транспалескае шашы. Ад Берасьця праз Пінск і — да савецкае мяжы... Некалі выкладзеная бэтонным брукам, яна й да сёньня спраўна служыць людзям. Да сёньня паслугоўваюцца беларусы й тысячамі школьных будынкаў, што былі пастаўленыя за палякамі ў пачатку 30-х ледзь ня ў кожнай вёсцы. Быў такі плян — даць кожнаму дзіцёнку ў Польшчы пачатковую адукацыю за дзяржаўны кошт... Былі, праўда, і дзіўнаватыя польскія праекты. Напрыклад, пасадзіць лес уздоўж савецкай мяжы. Паадсялялі багата народу, засадзілі ялінамі палі. Кавалкі таго лесу й цяпер шумяць паміж Негарэлым і Стоўбцамі, пад Радашкавічамі ды далей. Мабыць, колішнюю польскую мяжу, дзякуючы таму лесу, добра відаць з самалёта... Наагул за палякамі было рэалізавана багата экалягічных праектаў. Напрыклад, створаны Вялаўскі запаведнік у Налібаках, дзе аднавілі статак даніэляў, былі зробленыя жорсткія захады дзеля зьберажэньня й залясеньня Нарачанскіх ды Браслаўскіх азёраў. Але самым неверагодным сярод усіх праектаў стагодзьдзя стаў праект аднаўленьня зубра.

...Белавеская пушча, дзе спрадвеку гадаваліся лясныя волаты, за часоў Расейскай імпэрыі стала стрэльбішчам для цароў-імпэратараў. Толькі першае ў XX стагодзьдзі паляваньне амаль дашчэнту вынішчыла тутэйшую фаўну. На пацеху цара Мікалая II, якога расейская царква ўважае цяпер за сьвятога, у жніўні 1900 году ў Белавежы было забіта 40 зуброў, 53 алені, 26 ласёў, 36 даніэляў, 325 казуляў, 138 дзікоў... Неверагодныя лічбы. Калі ж улічыць, што Мікалай II паляваў тут і раней, дык можна пэўна сьцьвярджаць, што вынішчэньне зуброў — гэта збольшага ягоных рук справа.

У часе першае сусьветнае вайны немцы, якія праклалі праз пушчу чыгунку, каб лацьвей вывозіць пушчанскі лес, расстрэльвалі зуброў з кулямётаў. У 19-м годзе быў забіты апошні вольны зубр у сьвеце. На 24-ты год у заапарках Эўропы засталося 45 зуброў, сярод якіх было толькі блізу 10 чыстакроўных белавескіх. З 29 году пачаўся беспрэцэдэнтны праект аднаўленьня на волі жывёлы, якая ўжо апынулася за мяжой выміраньня. За вялізныя грошы ў Белавежы сабралі некалькі здаравейшых асобінаў і шляхам скрыжоўваньня й сэлекцыі аднавілі від найбуйнейшага зьвяра ў Эўропе. Навукоўцы здолелі зрабіць цуд. Пад 1941 год у Беларусі ўжо быў статак сапраўдных дзікіх зуброў — 19 асобінаў. Цяпер пагалоўе зуброў у сьвеце складае 2 тысячы, блізу чвэрці зь іх — у Беларусі. І гэта ад рысы поўнага небыцьця! Нідзе ў сьвеце падобныя праекты не завяршаліся гэтак пасьпяхова.

...Натуральна, грандыёзныя праекты былі зрэалізаваныя па апошняй вайне. Гэта й адбудаваныя гарады зь велічэзнымі плошчамі, даўжэзнымі праспэктамі. Гэта й аднаўленьне энэргетыкі. Скажам, толькі за першае паваеннае пяцігодзьдзе былі пабудаваныя 20 электрастанцыяў! Альбо: за той жа тэрмін збудавалі 12 рачных вэрфяў і расчысьцілі для суднаходзтва 3 тысячы кілямэтраў рэк!

Што да праектаў, якія так і засталіся ў праектах, дык самай грандыёзнай была ідэя Балтыйска-Чарнаморскага каналу. Паводле яго пад затапленьне траплялі 15 раёнаў Беларусі, а сам канал мусіў пралягаць праз Салігорск. Гэта каб грузіць калійныя ўгнаеньні і — проста ў мора! Каб так сталася, Эўропа ператварылася б у выспу, у літаральным сэнсе. А беларускія дзеці панамкамі махалі б трансатлянтычным ляйнэрам, што праплывалі б праз родны край. Але не хапіла грошай. Ня зьдзейсьніўся й іншы калясальны праект — абвалаваньня Прыпяці й татальнае мэліярацыі Палесься. Ізноў забракла сродкаў. Ці, можа, прыслухаліся да бурных «перастроечных» пратэстаў, як і ў выпадку зь Дзьвінскай ГЭС, якую хацелі паставіць на мяжы 80-х і 90-х, таксама затапіўшы ладныя кавалкі беларускай ды латвійскай земляў...

Было й колькі сымпатычных савецкіх праектаў. Напрыклад, праект рэгенэрацыі Верхняга Гораду ў Менску. Меліся адрадзіць ратушу, бажніцы, дзясятак даўно страчаных дамоў. «Увалілі» ўжо немалыя сродкі, адсялілі сотні сем'яў, падрыхтавалі будаўнічыя пляцоўкі, разьвесілі транспаранты з указаньнем тэрміну сканчэньня будаўнічых працаў: 1992 год. Каб зьдзейсьнілі своечасова, быў бы й сапраўды «праект стагодзьдзя», а Менск можна было б ставіць у адзін шэраг з Варшавай і Гданьскам. Але... Дамы без гаспадароў пакрысе разбурыліся, і канца будаўнічай валтузьні там не відаць дагэтуль. Сёньня наагул пастаўленая пад сумнеў мэтазгоднасьць аднаўленьня страчаных аб'ектаў. Сам галоўны беларускі рэстаўратар, спадар Бубноўскі цьвердзіць, што ацэньвае будаўнічыя работы ў Верхнім Горадзе «на троечку»...

Але многія савецкія праекты ўсё яшчэ вярэдзяць душы няўрымсьлівага беларускага чынавенства. Напрыклад, праект уласнае атамнае электрастанцыі. У 85—86-м гадох поўнай хадою распачалі былі працы ў пасёлку Дружны, што ў гадзіне пешае хады ад Рудзенску. Там аказалася балоцістая глеба. Зьбіраліся павывозіць яе, каб зрабіць бэтонную падушку... Затым, пасьля Чарнобыльскае катастрофы, прыдумалі зрабіць для энэргетыкаў цалкам бясьпечнае паселішча-бункер. Ані пра Рудзенск, ані пра Менск нават ня згадвалі. Каб, ня дай Бог, што якое, станцыя працавала б далей... Вы думаеце, гэты маразм закончыўся? Не! І дагэтуль не спыняюцца дасьледчыя й праектныя працы. Але гэтым разам АЭС плянуюць будаваць у Гарадку, на Віцебшчыне. Аргумэнты — шмат вады для тэхнічных мэтаў і малавата людзей. Маўляў, калі што адбудзецца, дык можа да Менску й ня дойдзе... Адчуваеце розьніцу ў падыходах савецкіх і цяперашніх беларускіх начальнікаў?... Хоць, Бог зь імі. Хай праектуюць. У гэтай улады грошай няма, а наступная можа будзе людчэйшаю...

Большасьць савецкіх гідраэлектрастанцыяў, такіх, як, скажам, «Дружба народаў» у Дрысьвятах, цяпер закінутыя й паламаныя. Рэкі, па якіх плылі караблі, паабмялелі, большасьць суднавэрфяў пазакрываныя. На асушаныя балаты трэба вазіць зямлю, каб нешта радзіла... У «краі вялікай хіміі», як «паэтычна» назваў Беларусь Мікіта Хрушчоў, штогод больш праблемаў са здароўем людзей. Дзякуючы ўсё той жа савецкай «хіміі», на вытворчасьці якой ледзь не штогод адбываюцца аварыі. Большасьць савецкіх праектаў стагодзьдзя нічога, урэшце, не далі самім беларусам. Апроч, вядома, новых гарадоў ды шырокіх праспэктаў... Калійныя солі некуды вывозяцца, магутныя «БелАЗы» працуюць немаведама дзе, хімвалакно купляюць там, дзе такую атруту выпрабляць забаронена...

Але час няўмольна ляціць, і пакрысе блякнуць на сучасным эўрапейскім ці азіяцкім тле ўсе гэтыя праспэкты, аэрапорты, шкляныя вакзалы. Непапраўна старэе, зношваецца савецкае абсталяваньне на заводах-гігантах. Не кажу пра Наваполацкі, Салігорскі, Сьветлагорскі... ад якіх Беларусі болей хіба шкоды, чым карысьці. Сыходзіць у нябыт і ўся беларуская савецкая эстэтыка, што не знаходзіць сабе найноўшага кантэксту, як тая грувасткая, у пампэзнай ляпніне часоў сталіншчыны, закінутая электрастанцыя «Дружба народаў»... Наўрад ці хто сёньня можа шчыра захапляцца бязглуздым мэмарыялам у Берасьцейскай крэпасьці альбо добраахвотна пад'яжджаць да Кургану Славы... А самаму вялікаму габэлену мастака Кішчанкі так і не знайшлося месца. А як знойдзецца, дык гэта, бадай, асабліва нікога ня ўразіць.

А вось зь якім матэрыяльным даробкам Беларусь увайшла ў сусьветную гісторыю — дык гэта з адроджаным зубрам. Яго павыбілі чужынцы, а ў беларусаў хапіла і дабрыні, і розуму, каб перадаць гэты цуд прыроды нашчадкам. Дзякуючы зубру, ніхто ў сьвеце, з тых, хто знаёмы з драматычнай гісторыяй ягонага вяртаньня, ня скажа, што Беларусь ня вартая ўвагі й пашаны...

# Калідор падсьледнага-2

Юры Сьвірко

У затрыманьні дзяржаўнага сакратара Барадзіна ў нью-ёрскім аэрапорце *«JFK»* ёсьць пазытыўны ды нэгатыўны аспэкты.

Пазытыўны — найперш для бюджэту гэтак званае саюзнае дзяржавы ды адпаведна ейных падаткаплатнікаў. Паўлу Барадзіну ня трэ будзе аплочваць сутачныя, рэпрэзэнтатыўныя, гатэльныя, рэстаранныя ды іншыя выдаткі ў нятанным Нью-Ёрку. Расейска-беларускія хаўрусьнікі пакуль патрацілíся толькі на авіяквіткі для яго. Галоўнае ж — знаходжаньне сп.Барадзіна ў амэрыканскай турме пэўным чынам перашкаджае рэалізацыі ягоных велізарных плянаў, пра якія «НН» распавядала чытачам у артыкуле «Калідор падсьледнага». Усе гэтыя транзытныя транспартныя калідоры праз Беларусь, будаўніцтвы саюзных парлямэнцкіх цэнтраў ды іншыя праэкты крамлёўскага летуценьніка прынамсі замарожаныя, калі не спыненыя назаўжды.

Нэгатыўны аспэкт я бачу ў тым, што саюзныя чыноўнікі не чытаюць беларускай незалежнай прэсы. «Калідор падсьледнага-1» быў надрукаваны нядаўна нібы адмыслова для Паўла Барадзіна. А ў ліпені 2000 г. інтэрвію з генэральным пракурорам Жэнэвы Бэрнарам Бэртуса апублікавалі «Народная воля» ды «БДГ».

Генпракурору Жэнэвы было зададзенае гэткае пытаньне: «Калі раптам сп.Барадзін паедзе ў Заходнюю Эўропу - напрыклад, прадстаўляць расейска-беларускую саюзную дзяржаву на нейкім форуме, - ці будзе ён арыштаваны?»

Б. Бэртуса даў наступны адказ: «Ордэр на арышт можа дзейнічаць толькі на тэрыторыі Швайцарыі, а можа і ва ўсёй Эўропе, і ва ўсім сьвеце. Калі судзьдзя выдае такі ордэр, ён не раскрывае ягонага тыпу», - заявіў сп.Бэртуса.



П.Барадзін (зьлева) з У.Ярмошыным

IREX-PROMEDIA

Жэнэўскі пракурор на маё «эўрапейскае» пытаньне незадарма адказаў ува ўсясьветных маштабах.

А на пытаньне, ці ўлічвалі жэнэўскія пракуроры цяперашні статус П.Барадзіна як міжнароднага расейска-беларускага чыноўніка, Бэрнар Бэртуса адказаў: «Мяне гэта не хвалюе. Ён ня мае тут ніякага імунітэту. Гэта мела б значэньне, каб ён меў такі імунітэт у Швайцарыі, але тут іншы выпадак».

Шкада, што дзяржсакратар Барадзін, як і ягоныя памагатыя, не чытаюць маіх публікацыяў. Але ж ягоны начальнік, што накіраваў яго ў няўдалую камандзіроўку, іх напэўна чытае!

А я ж хацеў, як лепш. За ўласныя грошы летась зьезьдзіў у Швайцарыю, каб высьветліць тую акалічнасьць, якая цяпер зацікавіла ўсіх. Прызнаюся, што справа Барадзіна была проста нагодаю, каб атрымаць швайцарскую візу ды павандраваць гэтай краінаю. Калі ў пачатку траўня мяне не пусьцілі з Аўстрыі ў Ліхтэнштайн, які мае супольную візавую прастору са Швайцарыяй, ды яшчэ паставілі адмоўны штамп у пашпарт, я вельмі раззлаваўся і з дапамогай некалькіх факсаў ды лістоў дамогся візы для паездкі ў Жэнэву. Яшчэ нідзе й ніколі мяне не абшуквалі так пільна, як на той самай ліхтэнштайнскай мытні ў другі раз - у чэрвені. Расейская ж мафія едзе! Але ўцямíўшы ўрэшце, што мафіёзі з расейскім пашпартам ня можа ехаць з адпаведным лістом наўпрост да генпракурора Жэнэвы, мяне прапусьцілі... За тры дні, што я правёў у Жэнэве, я ледзь-не сустрэўся там зь беларускім прэм'ерам Ярмошыным, які распавядаў нейкаму недарэчнаму саміту пра палепшаны дабрабыт жыхароў сваёй дзяржавы, папіў, як Сямён Букчын, кавы з Андрэем Саньнікавым на беразе Жэнэўскага возера ды амаль суткі ўгаворваў пракурора кантону Бэртуса даць мне інтэрвію.

Аднак самае галоўнае я даведаўся ў швайцарскай сталіцы Бэрне. У фэдэральным дэпартамэнце юстыцыі й паліцыі мне сказалі, што ніякія могуць уплываць на кантанальную пракуратуру ды нават ні ведаюць, што там робіцца. Чаму цяпер афіцыйная Масква ладзіць нейкія дэмаршы швайцарскім уладам, цяжка зразумець. Калі мне хапіла гадзіны знаходжаньня ў бэрнскім Бундэсгаўсе, каб даведацца ўсё патрэбнае пра юрыдычную сыстэму Швайцарыі, што ж месяцамі й гадамі робяць у Бэрне дыпляматы дзьвюх саюзных дзяржаваў?

Перад тым, як склікаць нараду зь сілавікамі й даваць сваіму памочніку Ўладзімеру Макею даручэньне адкамэнтаваць *«Интерфаксу-Западу»* арышт Барадзіна, Аляксандар Лукашэнка мог бы патэлефанаваць Макееваму папярэдніку Ўладзімеру Каралёву, якога ён летась прызначыў паслом Беларусі ў Швайцарыі.

Бо вельмі ж па-дурному атрымалася: у чацьвер спадар Лукашэнка заяўляе, што Барадзін меў дыпляматычную недатыкальнасьць (і адпаведны пашпарт), а ў пятніцу тэлеМялешка яго абвяргае ды кажа, што дзяржсакратара падставілі свае ж чыноўнікі, якія не зрабілі яму візы ў дыпляматычны пашпарт. Хаця той жа Яўген Мялешка разам са сваім цёзкам-«праваахоўцам» (тэрмін Сьвятланы Дабрынік) Новікавым слушна заўважылі, што сп.Барадзін пацярпеў праз сваю пыху.

Дык не выходзьце з самалётаў «Аэрафлёту» праз калідор падсьледнага! А таксама - ня лезьце паперад Пуцькі ў пекла...

# The Daily Telegraph аб прэтэнзіях Нямеччыны на Каралявец

**Брытанская газэта *The Daily Telegraph* учора надрукавала сэнсацыйны матэрыял, паводле якога Нямеччына мае намер дамагчыся "эканамічнага панаваньня" ў каралявецкім (калінінградзкім) анкляве Расеі. За права зрабіць гэта Бэрлін быццам бы гатовы даравань Маскве ейны доўг у 22 млрд. даляраў. Быццам бы гэтая тэма абмяркоўвалася ў часе візыту канцлера Шродэра ў Маскву. Шродэр таксама прапаноўваў Пуціну пашырэньне эканамічнае дапамогі былой Усходняй Прусіі з боку ФРН.**

Калі гэтыя зьвесткі – не прыдумка брытанскіх газэтчыкаў, дык Нямеччына разьлічвае моцна павялічыць сваю прысутнасьць на ўсходзе Эўропы. Страта Расеяю Каралявца адпавядала б нацыянальным інтарэсам Беларусі.

А што пэўна — нямецкі ўрад перадаў у Эўразьвяз праект дамовы пра супрацоўніцтва з Калінінградзкай вобласьцю. 2001 год абвешчаны ў Нямеччыне г.зв. «пруслім годам».

Варта нагадаць, што тыдзень таму беларускі віцэ-прэм'ер Козік паставіў пытаньне фактычна пра перадачу гэтага балтыйскага анкляву пад падвойную беларуска-расейскую юрысдыкцыю. А што? Беларусь магла б саступіць прыморскую тэрыторыю нямецкім сябрам па нашмат лепшай цане.

Б.Т.

# Віцебскі час

Несупыннасьць часу мае свой адпаведнік у плыннасьці прасторы, якая перацякае з дальних абшараў у бліжнія, не мяняючы сваёй прасторавае існасьці. Яна вандруе разам зь людзьмі, з жывымі і прывідамі — з Бабруйску ў Эдынбург, з Эдынбургу ці Парыжу ў Віцебск. Яна шчыльнее ў гарадох, свабаднее ў палёх і лясох. А ў сталіцах набывае аж такое камкаватае гушчыні, што не зварухнешся, аж пакуль нехта звонку не напусьціць сьвежага паветра ў гэтую вусьцішную, задубелую заціш, скрозь перасычаную людзкімі выпарэньнямі.

Гэты *нехта*, верагодна, завецца Богам. І менавіта Бог падштурхнуў мяне зьмяніць свой звычайны маршрут у бібліятэку, так што я апынулася твар у твар зь дзьвюма саматробнымі абвесткамі фармату А4 — бляклымі і амаль незаўважнымі побач з дыхтоўнаю рэклямаю Купалаўскага тэатру. Купалаўскі — гэта ж сталіца! А самаробныя абвесткі паходзілі, відавочна, зь Віцебску — так бы мовіць, з "альтэрнатыўнага цэнтру беларускай культуры". Аднак ці менчукам выхваляцца перад Віцебскам, дзе самое паветра спрыяе нараджэньню геніяў? Менавіта з-над Дзьвіны пайшлі ў вялікі сьвет жывапісец Марк Шагал і дызайнэр Эль Лісіцкі. Менавіта ў Віцебску ўзьнікнуў першы ў Беларусі сымфанічны аркестар і першае мастацкае аб'яднаньне — *"Уновіс"* на чале з Казімерам Малевічам. Менавіта тут у другой палове 1920-х гадоў буяў авангардны БДТ-2, а цяпер, у нашыя дні, наладжваюцца найбольш аўтарытэтныя артыстычныя фэстывалі. Хіба ж дзіўна, што ў Віцебску, на малой сцэне Беларускага акадэмічнага драматычнага тэатру імя Якуба Коласа, нарадзіліся два дасканалыя спэктаклі?

"Шагал, Шагал..." і "Пісьменныя" ў пастаноўцы Віталя Баркоўскага можна было паглядзець у Менску, на малой сцэне Купалаўскага. Вядома, пры ўмове, што патэнцыйны глядач заўважыў абвестку ў падземным пераходзе і загадзя ведаў і пра Баркоўскага, і пра віцебскі тэатр (дзе ён галоўным рэжысэрам).



АЛЕСЬ МЕМУС

Уважлівы тэатрал прыглядзецца да Баркоўскага яшчэ ў тыя легендарныя часы, калі ён працаваў у Магілёўскім абласным драмтэатры імя Дуніна-Марцінкевіча. Тэатар зваўся магілёўскім, але месьціўся ў Бабруйску, у атачэньні старадаўніх вулак і дробных габрэйскіх крамаў. Насупраць было кіно, дзе сустрэліся калісьці мае бабуля зь дзядулю (і закахаліся адно ў аднаго зь першага погляду). Усе калідоры пампэзнага тэатральнага будынку ў стылі "позьні рэабілітанс" наскрозь прадзімаліся ветрам, гледачы сядзелі ў футравых капелюшах, затое ў буфэце заўжды былі цудоўныя піроржныя зь сьметанковым крэмам і арэхамі. Кожную раніцу мы з Баркоўскім сустракаліся на рэпэтыцыях. Ён — сталы ўжо прафэсіянал — займаўся спэктаклем "Талент каханьня" паводле апавяданьняў Надара Думбадзэ. Я, зусім яшчэ дзяўчынка, спрабавала сябе ў ролі тэатральнага кампазытара. Спэктакль атрымаўся трапяткі і летуценны. Нават менскія крытыкі даравалі яму суцэльную адсутнасьць той камэрцыйнай тандэты, якая чамусьці называлася сацыялістычным рэалізмам.

Якое ж моцнае было маё расчараваньне, калі праз нейкі час я ўбачыла ў менскім Расейскім тэатры новы твор Баркоўскага — *"Баловни судьбы"*! Нібыта самое паветра сталіцы аказалася атрутным для мастака, зьнявечыўшы ягоную фантазію. А можа, вінаватая была расейскамоўная п'еса, наскрозь прасякнутая постсавецкім духам *Ленинского проспекта*?

І вось новая сустрэча — ды ты ж зусім не зьмяніўся, спадару Баркоўскі! Усё той жа румяны твар, як у дзіцёнка ў пясочніцы, прыўкрасныя вусы. Усё тая ж хітраватая ўсьмешка ў вачох. Усё тыя ж самыя жартачкі з выразным прысмакам часнаку і солі. Хіба што размаўляеш ты цяпер, як усе прыстойныя людзі, — па-беларуску.

Назаўтра я глядзела "Пісьменных". Спэктакль пра патаемны сэнс і патаемную ж бессэнсоўнасьць нашага сёньняшняга жыцьця, нашмат глыбейшы і зьместаўнейшы, чымся ягоная ідэя, пра якую нам доўга распавядала інтэлігентная цётухна-тэатразнаўца. Спэктакль амаль цалкам аўтарскі, бо сам Баркоўскі прыдумаў для яго і дэкарацыі, і строі, і музычнае афармленьне. (Усё быццам проста з Парыжу.) І неверагодна дэталізаваны і прыгожы — як лісточак бальзаміну, разгледжаны праз моцную лупу. Найбольш уражвае дасканаласьць акторскага ансамблю: скрозь прафэсіяналы, якіх ня многа знойдзеш сярод сталічных "віртуозаў сцэны". Ці, можа, гэта натуральны вынік адмысловае рэжысэрскае пэдагогікі? Асобнае пахвалы заслугоўвае выканаўца галоўнае ролі Вячаслаў Грушоў — сапраўды цудоўны артыст.

Славуты віцебскі "Шагал" летась атрымаў першую прэмію на Эдынбурскім фэстывалі. Упершыню за апошнія 16 гадоў галоўны прыз Эдынбургу дастаўся тэатру з Усходняе Эўропы. Даўно ўжо (можа, за вынятакм пінігінскай "Ідыліі") я не сьмяялася і ня плакала ў тэатры; а тут сьлёзы цяклі зь мяне самі сабою. Салодкія сьлёзы, бо існы цуд мастацтва — ператварэньне горычы ў слодыч. Перад мною быццам раскрылася ўся салодкая прыгажосьць нашае зямлі, уся праўда ейнае цудатворнае існасьці. Разам з Шагалам я ўбачыла гэтую зямлю з вышыні птушынага палёту — з усімі ейнымі цэрквамі, касьцёламі і сынагогамі, — і сэрца сканулася ад шчымлівай любові.

І вы, ганарлівыя, называеце гэта "тэатральнай правінцыяй"? А напэўна называеце, бо спэктаклі адбываліся ў напаўпустой залі. Ніхто пры ўваходзе не пытаўся квіткоў. Не было відаць ані студэнтаў і выкладчыкаў з тэатральнае акадэміі, ані начальства, ані журналістаў зь дзяржаўных выданьняў, ані капэльдынэраў з букетамі ад прэзыдэнта, якія вянуць ужо ў той самы вечар, калі іх падарылі. Анікога, хто мог бы папсаваць гэтыя сьвятарныя імгненьні сустрэчы з сапраўдным мастацтвам. (Насуперак усім нашым мовазнаўцам я сьцьвярджаю, што дзеяслоў "папсаваць" утвараецца ад назоўніка "папса".) Усё было ціха і ўрачыста, як у храме. І толькі чуваць, як за сьценамі тэатральнае залі падаюць сьняжынкі, ахінаючы ачарнелы і стомлены горад чыстаю бельлю. І як пралятае на мяккіх крылах, нячутны ў мітусьні нашых будняў, час-чарадзей.

Юлія Андрэева

*ксяндзу Ўладзіславу Чарняўскаму — 85*

# У халоднай хатцы


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Уладзіслаў Чарняўскі нарадзіўся 14 студзеня 1916 г. у засьценку Амбружына (сёньняшні Смаргонскі раён) у шматдзетнай каталіцкай сям'і. Так сталася, што ў 1915 г. у часе першай сусьветнай вайны праз родную вёску Чарняўскіх Біцяняты прайшоў фронт, і яны, выгнаныя з роднай хаты нямецкімі жаўнерамі, перасяліліся да сваякоў у засьценак Амбружына. Зімой 1919 г., па сканчэньні вайны, Чарняўскія вярнуліся ў Біцяняты.**

З васьмі год Уладзіслаў пачаў вучыцца. Школы ў Арлянятах, Вішнёўцы, Крэве. Потым паступіў у настаўніцкую сэмінарыю ў Барунах, аднак скончыць яе ня здолеў, бо ўлады зачынілі сэмінарыю ў 1933 г. з фінансавых меркаваньняў. Вяртацца дахаты на гаспадарку не было сэнсу, і безь яго было дастаткова братоў, каб падзяліць невялікі кавалак зямлі. Уладзіслаў быў згодны на любую навучальную ўстанову, абы дзе ўладкавацца. *“Пісаў у лётніцкую школу ў Быдгашч, але па здароўі ня прынялі”.*

Перабраўшы ўсе магчымасьці, ён ухапіўся за апошні шанец. Напісаў свайму роднаму дзядзьку, ксяндзу Францішку Чарняўскаму, які служыў у той час у Францыі. Дзядзька параіў ехаць у Друю, у гімназію імя Сьцяпана Батуры, заснаваную айцамі-марыянамі. Уладзіслаў паслухаўся дзядзькавай парады і выехаў у Друю, дзе адвучыўся тры гады. Скончыўшы гімназію, ён вырашыў прысьвяціць сябе Касьцёлу і паступіў у навіцыят марыянаў, зрабіўшы тым самым першы крок да сьвятарства.

У 1938 г. на друйскіх айцоў-марыянаў абрынуліся рэпрэсіі польскіх сьвецкіх і касьцёльных уладаў. Восем ксяндзоў-марыянаў былі выселеныя зь мястэчка, хлопцам з навіцыяту таксама прыйшлося зьехаць у польскі Скужэц. На выгляд жыцьцё тут нічым ня розьнілася ад Друі: маленьні, рэлігійныя практыкі, імшы, чытаньні. Аднак жыцьцё ўдалечыні ад Беларусі прыгнятала маладога Чарняўскага. У Скужцы не было таго беларускага патрыятычнага духу, якім поўніўся Друйскі кляштар, тут панавала польскасьць. Праз год, па сканчэньні навіцыяту, Чарняўскі, што папярэдне склаў *вечныя шлюбы*, быў накіраваны ў Вільню працягваць навуку ў каталіцкай сэмінарыі.

Менавіта ў Вільні распачалося супрацьстаяньне будучага ксяндза з “польскасьцю”. Кіраўніцтва сэмінарыі ўсяляк імкнулася давесьці студэнтам, што не існуе ніякай беларускай нацыі, што ёсьць этнічныя палякі і зрусіфікаваныя палякі. За сьвядомымі студэнтамі-беларусамі быў усталяваны нагляд, ім пагражалі выключэньнем з гімназіі.

На летнія вакацыі 1939 г. сэмінарысты выехалі ў Расну, што ля Белавескай пушчы. Там іх і сустрэла вайна. Сэмінарысты вырашылі ўцякаць у Вільню, а потым у Друю. Аднак, дабраўшыся да Браслава 17 верасьня, даведаліся, што ў Друі гаспадараць Саветы, і вырашылі ўцякаць у яшчэ незалежную Літву, дзе знаходзіліся інстытуцыі марыянаў. У Літве Ўладзіслаў Чарняўскі перажыў нямецкую акупацыю і скончыў Віленскую каталіцкую сэмінарыю (немцы далі дазвол на ўзнаўленьне сэмінарыі, зачыненай пры Саветах).

У кастрычніку 1944 г. Уладзіслаў Чарняўскі быў высьвечаны ў сьвятары Віленскай катэдры біскупам Мечыславам Райнісам. Віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі адмовіўся высьвячаць яго з-за ягонай беларускасьці.

Сваю першую імшу айцец Уладзіслаў адслужыў у тым жа годзе ў Крэве, аднак наступныя дзевяць год былі шчыльна зьвязаныя зь Літвой, жыцьцё ў якой у паваеннае дзесяцігодзьдзе было цяжкім і небясьпечным. Вайна для Літвы ня скончылася ў 1944 г., яна працягвалася і далей. Маленькая рэспубліка ваявала супраць савецкага акупанта. Укмерге, Ейнішкес, Варэна, Эйшышкі — месцы працы беларускага ксяндза — супалі зь літоўскім супрацівам савецкай уладзе. Савецкая адміністрацыя лічыла ксяндзоў за пасобнікаў лясных братоў, і а. Чарняўскага няраз выклікалі ў НКВД, дзе зь ім праводзіліся прафіляктычныя гутаркі.

Да пабачанага, да стрэлаў па начах далучылася хвароба: спачатку брушны тыфус, а пасьля і запаленьне лёгкіх. Хворага адвезьлі ў Вільню, дзе ён праляжаў каля двох месяцаў. *“Здавалася, вось ужо і сьмерць мая прыйшла.. Падчас хваробы неяк ужо незвычайна трызьніў. Прыбачыўся прыход Антыхрыста, па-*


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

ВОДГУК

# Пра Вайсковыя могілкі ў Менску

Высокапаважаны спадару Мухін!

Зь вялікім зацікаўленьнем я, Вітаўт Кіпель, і мая жонка, Зора Кіпель (дзявочае прозьвішча Зора Савёнак), прачыталі ў “НН” Ваш рэпартаж-расказ пра Вайсковыя могілкі ў Менску. Я й Зора – абое мянчане, народжаныя ў Менску, – дзяцінства нашае цалкам зьвязана зь Менскам, а маё й з могілкамі. Зора даўгія гады жыла непадалёк тых могілак у бок «галанцярэйкі» (ейны дом стаяў, дзе цяпер невялічкі парк). Хата майго дзеда Васіля Зубкоўскага была за пару сотняў мэтраў ад могілак на Горным завулку, ідучы наверх з правага боку. Тую хату мой дзед сам будаваў недзе ў 1906–1907 гг. У гэтай хаце я жыў пару год па народжаньні. Потым, калі нашу сям'ю выслалі ў 1930 г. у Расею, пачынаючы ад 1933 да 1938 г., я кажнае лета праводзіў у дзеда. Дык тыя могілкі бывалі для мяне і паркам, і месцам гульняў. Я й цяпер, калі бываю ў Менску, частавата адведваю тыя мясьціны. Напэўна, хаця гэта, мабыць, і «тапор пад лаваю», тыя могілкі значна пашыраныя. Відаць, пасьля вайны. Алея магілак савецкіх жаўнераў, што займае палажэньне зьверху ўніз ад Чырваназорнае да Даўгабродзкае, адпавядае былой вуліцы Ямнай, што злучала Чырваназорную з Даўгабродзкаю. Горны завулак да Ямнае не даходзіў, а там быў нібы зыгзаг. На другім канцы Горнага завулку была вуліца, што вяла на пляц Якуба Коласа (там цяпер сходкі).

У гады перад вайною бывалі часы, калі дзьверы ў царкву на могілках былі адчыненыя. Мясцовыя людзі пільнавалі той уваход, часта тое-сёе падрамантоўвалі. Найбольш працавалі каля царквы сп. Суднік і мой дзед Васіль Зубкоўскі. Дарэчы, Суднік быў каталік, меў на Горным завулку сваё прадпрыемства (за цара) і перад рэвалюцыяй вымасьціў плітамі значныя паверхні перад Чырвоным касьцёлам. Я пра гэта расказаў сп. Захару Шыбеку, і ён пра Судніка ўспамінае ў беларускамоўнай кнізе «Менск. Старонкі жыцьця дарэвалюцыйнага гораду». Але найболей царкву пільнавала нейкая Эўфрасіньня, як нам, дзецям, казалі, «беспрацоўная». Тэй асобе ня выдалі пашпарту й нідзе ня бралі на працу, бо яна не згадзілася, каб у пашпарце напісаць «Фрося» замiж «Эўфрасіньня».

Старыя казалі, што «ўласьці» хацелі, каб аграды будавалі з крыжамі з «касою папярэчкаю», бо «так нада» было, а не «па-старому», гэта значыцца, без касое папярэчкі. Добра зразумеў я гэта ўжо значна пазьней! Калі мы ставілі помнік на магіле мае бабкі (яна пахавана з правага боку царквы, мэтраў дзесяць ад будынку дарогаю да армянскага помніка зь беларускім надпісам), у дабавак да клясычнага крыжу на агароджы мы яшчэ паставілі й крыж Эўфрасіньнеўскі ды далі гісторыю сям'і.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Ідучы пад армянскі помнік правым бокам уздоўж царквы, пабачыце невялічкі гранітны квадрацік з надпісам прыблізна такога зьместу (у расейскай мове): тут спачывае раб Божы Яан Кушнер. Гэта магілка сьвятара Івана Кушнера, які загінуў у 1943 г., узарваўшыся на міне. Гэта быў настаяцель тае царквы. Паходзіў айцец Іван з Наваградчыны. У Менск прыехаў у часе акупацыі й адразу пачаў уводзіць беларусізацыю ў тую царкву: зьбіраў моладзь, арганізаваў хор, праводзіў беларускую працу. Часта, ідучы да хаты (а. Іван жыў на Кладбішчанскай вуліцы), ён затрымліваўся на пагарэлішчах, дзе мы найчасьцей пасьвілі козы ці каровы, ды агітаваў нас, а было нас шмат, запісвацца ў царкоўныя арганізацыі. Некаторыя з маіх сяброў далучаліся да царквы, але я «аднекваўся», бо займаўся іншым. За пару год той сьвятар стаўся вельмі папулярны на Камароўцы. Яго хавалі тысячы людзей, дзясяткі сьвятароў, некалькі япіскапаў. Прамовы ўсе былі па-беларуску, і быў пастаўлены вялікі крыж зь беларускім надпісам. Той крыж зьнішчылі і ўсё «ўраўналі».

У вялікай пашане ў наведнікаў была магіла прафэсара Бліядухі, налева ад уваходу ў царкву, але яшчэ на дарожцы да царквы. Хадзіла легенда, што гэты чалавек хацеў, каб Беларусь была незалежная, каб Беларусі ўсяго было даволі.

Першы крыж на магіле Эдуарда Самуйлёнка паставілі Лявон Савёнак і Антон Шукелойць.

Пару слоў пра магілу Ўсевалада Ігнатоўскага. 25 сакавіка 1944 г. пры гэтай магіле мы складалі прысягу

*чайшага вайну супраць чалавецтва, якая прывяла да страшэннага зьнішчэньня і разбурэньня. Чуўся голас Госпада Бога: Гэты народ будзе зьнішчаны, той народ будзе зьнішчаны. Потым апынуўся пад Вострай Брамай, а нада мной Бог. Да таго ж ідуць расейскія танкі: стукат, грукат, гінуць людзі як на захадзе, так і на ўсходзе. Зьвярнуўся Бог да мяне: "Ты ж ксёндз, малíся. Ты забыўся жагнацца! Як трэба маліцца?" Падняў я рукі над сабой, а яны не трымаюцца, падаюць, але ж неяк узьняў рукі і прашаптаў: "Божа, збаў нас ад усяго ліхога праз тваю бязьмежную міласэрнасьць". "Добра, — сказаў Бог, — ты сказаў малітву, цяпер адпачывай, сын!" Больш за месяц трызьніў, хацелася ўжо памерці. Але адбыўся цуд, і дзякуючы волі Божай і апе[цы] Маці Божай выжыў".*

Парафіі Эйшышкі, Дзявянішкі, Варэна знаходзіліся пры беларускай мяжы. Блізкасьць да мяжы і шматлікія дэлегацыі вернікаў зь Беларусі (у Беларусі не ставала ксяндзоў, тым больш беларускіх) пераканалі ксяндза ў рашэньні пераехаць у родныя мясьціны. Пасьля паездкі ў Маскву ўсе юрыдычныя нюансы былі ўлагоджаныя і дазвол на пераезд у Беларусь здабыты. Заставалася толькі выбраць месца працы (а такіх варыянтаў хапала, было непасрэдна некалькі прапановаў — і на Гарадзеншчыну, і на Віцебшчыну). Але раптам прыйшла вестка, што памёр сябра па Віленскай сэмінарыі ксёндз Станіслаў Міхальскі, пробашч парафіі ў Вішневе Валожынскага раёну, і пытаньне вырашылася. Кс.Чарняўскі прыехаў на ягонае месца (кастрычнік 1953 г.).

На пачатку свайго сьвятарства ў Беларусі кс. Чарняўскі ня думаў, што сутыкнецца з значнымі праблемамі. Яшчэ да пераезду ён паставіў умову дэлегацыі вернікаў, што будзе гаварыць у касьцёле па-беларуску. Калегі-ксяндзы за беларускую мову ў касьцёле называлі яго камуністам. Яны традыцыйна працягвалі разглядаць касьцёл у Заходняй Беларусі як польскую дзядзіну. Працягваў спрацоўваць прынцып, які дзейнічае і па сёньняшні дзень: *каталік — значыць, паляк.* Практычна, кс. Чарняўскі быў адзіным, хто пасьлядоўна зь сярэдзіны 50-х і па канец 80-х гг. адстойваў беларускую мову ў казаньнях і навуках. Яму супрацьдзейнічалі, пісалі ананімкі, спрабавалі пазбавіць парафіі. *"Колькі разоў рабілася крыўдна, думаў, кіну, вярнуся ў Літву. Але шкада было разьвітвацца з роднымі месцамі... Памалу самыя ўпорыстыя сталі прывыкаць".*

Ён выстаяў, а касьцёл у Вішневе і ягоная хатка былі адным з асяродкаў беларушчыны. Да ксяндза Чарняўскага ў змрочныя застойныя часы езьдзілі беларускія інтэлігенты па духоўнае блаславеньне, параду або проста паслухаць імшу і казаньне.

У 1968 г. кс. Уладзіслаў Чарняўскі быў запрошаны ў Рым, да Папы Паўла VI. Яго прызначылі дарадчыкам у Кангрэгацыю па абрадах і дачучылі перакладаць на беларускую мову Біблію. Давялося працаваць начамі, сутыкацца з праблемамі перакладу тэрмінаў, але праца была зроблена. Былі выдадзеныя "Катэхізмоўка", "Новы Запавет", "Кніга Роду", чакаюць свайго часу і астатнія кнігі Старога Запавету.

Кс.Чарняўскі жыве ў старой, халоднай хатцы з дрэннай печкай, старэнькім тэлевізарам. Па вечарах чытае незалежную прэсу, якую выпісвае, і па старой традыцыі слухае Радыё Свабода. Айцец Уладзіслаў працягвае служыць у вішнеўскім касьцёле, молячыся за Беларусь. Ад ягонай хаты да касьцёлу больш за кілямэтар. Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі карыстаецца вялікай павагай у парафіянаў, якія па-свойску ласкава называюць яго "наш Уладак".

**Алег Гардзіенка**

## Энцыклапэдыя беларускага замежжа

Фота Анатоля Клешчука



**Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла на лужку каля сваёй хаты. Атава, Канада.**





**Вячка Станкевіч, былы дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода. Жыве паміж Прагай і Нью-Ёркам.**



**Вітаўт Кіпель у гасьцёх у сяброў. Чыкага, ЗША.**

Беларусі. Быў той дзень вельмі ўрачысты. Нас, юнакоў, было сотні паўтары, а можа й болей. Сябры Саюзу Беларускае Моладзі былі зь менскіх школ, вялікі зьвяз моладзі з радыёзаводу, з сэмінарыі, з фэльчарскае школы ды нават зь іншых мясцовасьцяў. Цырымонія доўжылася пару гадзін, былі дзясяткі бела-чырвонабелых сьцягоў і гарністы. Праўда, быў вельмі халодны дзень, і ў тых уніформах было здорава холадна! З прамоўцаў я памятаю А.Комара з Саюзу Беларускае Моладзі, здаецца, прамаўляў Д.Стэльмах.

**Пра магілу Янкі Купалы дасылаю ўспамін Апалёні Савёнак.**

**З глыбокаю пашанаю**
**Вітаўт і Зора Кіпелі**

## ПРЫПАМІНАЮ...

У часы нямецкай акупацыі Менску ўлетку, недзе пад канец чэрвеня 1942 г., зусім нечакана, на ледзь значнай сярод руінаў вуліцы, што вяла ад Верхняе Ляхаўкі на вакзальную плошчу, спатыкаю Ганну Луцэвіч, малодшую сястру Янкі Купалы. Нідзе ні душы. Яна блукала як непрытомная. У роспачы кінулася да мяне. «Сам Бог паслаў мяне сустрэць Вас», — ледзь вымавіла ў сьлёзах. Хаця такая роспач была на тую пару звыклаю зьявая, аднак у спакойнае Ганны гэта было нешта надзвычайнае.

— Што сталася? — пытаюся, моцна абдымаючы яе ды стараючыся супакоіць.

— Мама памерла. Я ня ведаю, што рабіць, — выціснула яна, ледзь дыхаючы.

Божа мой! Купалава маці памерла, а я ня ведала нават, што яна жыве тут, у Менску, ня ведала, як жыве. А Ганна тымчасам жалілася:

— Ня ведаю, як здабыць дамавіну, выкапаць дол. Нічога ня ведаю. І сёстрам як пераказаць, ня ведаю.

— Супакойцеся, пачакайце, можа, што-небудзь зарадзім.

І павяла яе ў рэдакцыю «Беларускае газэты».

Па дарозе яна расказала, што жылі яны з маткаю на Грушаўскім пасёлку, што пераказаць сёстрам яна ня мае ніякае магчымасьці — так тады цяжка было з камунікацыяй — сказала, што матар'яльна яны маюцца вельмі слаба.

У рэдакцыі, як даведаліся пра сьмерць Купалавае Маткі, узяліся зрабіць самае канечнае, што можна было ў тых абставінах: зрабіць дамавіну, раздабыць транспарт, дастаць дазвол на пахаваньне, на месца на могілках, выкапаць дол. На тую пару гэта былі нялёгкія справы. У «Беларускай газэце» было паданае ў чорных рамках паведамленьне пра сьмерць Бэнігны Луцэвіч...

Мы з Ганнаю пайшлі да яе на кватэру. Мы самі ўдзьвёх абмылі, як маглі, нябожчыцу, апранулі ў чыстае. Сукенка была ўжо гатовая. Бронзавая ў сьветлыя крапінкі. Злажылі на ўслон. Ня мелі ні сьвечкі, ні абразка. Назаўтра была прывезена дамавіна.

На трэці дзень на грузавіку, звыклым рабочым грузавіку, прыехалі ўстоячкі людзі з рэдакцыі, сярод іх галоўны рэдактар Казлоўскі, паэтка Натальля Арсеньнева, Антон Адамовіч, Лявон Крывічанін і іншыя ды кс. Гадлеўскі. Зьявіліся сьвечкі й крыжык. Сьвятар адправіў рэквіем.

На час вынасу цела сабралася ладная грамадка суседзяў. На грузавік вынесьлі дамавіну, а вакол пасталі ўсе, хто меў праводзіць на могілкі. Грузавік падкідвала на разьбітых вуліцах.

Пахавалі матку Янкі Купалы на вайсковых могілках, недалёка ад царквы. Кс. Гадлеўскі, асьвяціўшы адкрытую магілу, сказаў колькі слоў. Нічога ня памятаю зь ягонае прамовы, толькі апошнія словы: «Дзе сын Твой, гаротная беларуская маці?» Была яшчэ прамова Антона Адамовіча ад рэдакцыі «Беларускае газэты», і запамяталіся зь яе словы, што сэрца Купалы павінна было вычуць, што маці ягоная памерла і мы яе сяньня хаваем. Толькі пазьней мы даведаліся, што ў гэты самы час загінуў Купала недзе далёка ад Бацькаўшчыны.

Ганна заплакала, выціраючы сьлёзы канцом белае хусткі, што была завязаная пад бараду. Усё ж у сваёй глыбокай роспачы не забылася падзякаваць прысутным, казала, што не спадзявалася такое дапамогі, што як зь неба спусьцілася да яе. Прасіла выбачэньня, што ня можа, як належала, прыняць удзельнікаў пахаваньня. Але каб і магла, гэта непатрэбна, бо ніхто не затрымліваўся, усе разышліся. У тую пару ўсе ўсяго баяліся. Жудасны час вайны.

Так сьціпла пахавалі мы маці нашага вялікага Песьняра.

**А[палёнія] С[авёнак]**
**Паводле газэты «Беларус», № 287, 1981 г.**

# Скарбы сьвету

Імя Міколы Крывальцэвіча, археоляга з Інстытуту гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, добра знаёмае вузкаму колу спэцыялістаў, якія вывучаюць бронзавы век, шырокаму колу сталых чытачоў "Нашае Нівы" і вялізным колам грамадзкасьці, якія сочаць за падзеямі вакол Курапатаў. Мікола — адзін з тых спэцыялістаў-археолягаў, якія праводзілі раскопкі гэтай сумнай мясьціны, аўтар публікацыяў пра яе. Да таго ж ён адзін зь нешматлікіх папулярызатараў археалягічных ведаў. Колькі гадоў таму на старонках "Нашай Нівы" пачалі зьяўляцца яго артыкулы пра найбольш гучныя археалягічныя адкрыцьці. Быў час, калі "Наша Ніва" друкавала грунтоўныя артыкулы з разьлікам на іх доўгае жыцьцё ўжо ў асобных выданьнях. З той задумы атрымаўся зборнік Сяргея Харэўскага "Зьвяры-суайчыньнікі", і толькі цяпер — кніга Крывальцэвіча "Археалягічныя адкрыцьці сьвету".

Гэта першая беларуская кніга пра сусьветную археалёгію. Зразумела, папулярная. "Шырокі" чытач прагне сэнсацыйных зьвестак пра мінулыя эпохі. У сьвеце такі попыт задавальняюць ня толькі прафэсійныя археолягі, але і цэлая армія пісьменьнікаў ад навукі, якая за добры прыбытак выдумала не адну гісторыю пра муміі іншаплянэтнікаў ды розных гуманоідаў, Атлянтыду і г.д. У кнізе Міколы Крывальцэвіча ёсьць толькі дакладныя факты, але калі чытач прагне золата — няма праблемаў, ёсьць і пра адкрыцьцё ўнікальных залатых комплексаў. У зборніку сапраўды галоўнае з тых адкрыцьцяў, што ўзрушылі сусьветную супольнасьць, пра што пісалі газэты, паказвала тэлевізія, пра што хто-небудзь ды нешта чуў. Цяпер гэта паказана з пункту гледжаньня прафэсійнага дасьледніка і дапоўнена адпаведным камэнтаром.

На першы погляд, зьмешчаны матэрыял выглядае змрачнавата. Націск зроблены на нябожчыкаў, муміі, пахаваньні, могілкі і г.д. Але за гэтым стаіць агульная тэндэнцыя зьменаў інтарэсаў у грамадзтве. Калі раней за найбуйнейшае археалягічнае адкрыцьцё ўважалі пад'ём на сьвет Божы колькі там кілаграмаў золата, то цяпер найважнейшым лічыцца атрыманьне чарговай шматвекавой муміі. Біялёгія трывала зрабілася навукай нумар адзін. З адкрыцьцём новай муміі (тапельца з балота, замерзлага з глыбы лёду і г.д.) публіка чакае незвычайных біялягічных экспэрымэнтаў. Зважайма, пра клянаваньне раней і думкі не было. Але народ у Эўропе быў і раней дастаткова адукаваны — нейкая кабета ўсур'ёз настойвала на тым, каб яе апладнілі замерзлай спэрмай "ледзянога чалавека" з Альпаў. Іншыя прапаноўвалі вылучыць зь цела чалавека, што праляжала ў балоце каля 2500 гадоў, гены ды прарасьціць іх у лябараторных умовах. Апатэозам стаў сучасны праект клянаваць Ісуса Хрыста, скарыстаўшы біялягічны матэрыял са славутай Турынскай плашчаніцы. Уяўляеце, якім будзе другое прышэсьце?

У кнізе знайшлося пачэснае месца і сапраўды навуковым намаганьням узнавіць былыя формы жыцьця, у сэнсе — лад матэрыяльнай вытворчасьці. Так званая "жывая археалёгія" імкнецца поўнасьцю аднавіць рэальныя працэсы матэрыяльнага жыцьця ранейшых эпох. Энтузіясты ствараюць быццам старажытныя паселішчы, жывуць, як жылі людзі сотні і тысячы гадоў таму, аднаўляюць іх "індустрыю". Гэтак у Эўропе, Амэрыцы. Як канстатуе Мікола Крывальцэвіч, у Беларусі пакуль няма экспэрымэнтальнай археалёгіі. Цэлая галіна сучаснай археалягічнай навукі застаецца ў нас нязьведанай, і таму кожны, хто адважыцца ёю займацца, будзе варты пашаны айчыннага першапачынальніка. Гэтак, хто пачне?

Увогуле беларускага матэрыялу ў кнізе небагата. Як адкрыцьці ўсясьветнага маштабу можна разглядаць дасьледаваньні крамянёвых капальняў часоў нэаліту і бронзавага веку каля Ваўкавыску ды вывучэньне нэалітычных паселішчаў на пАлях Крывіна і Асавец. Калі пішацца пра нешта найбольш знакамітае, любы чалавек з уласнага досьведу знойдзе не прапанаваныя аўтарам факты, у тым ліку зь Беларусі. Няма пра груганыя золатам каравэлы з Амэрыкі, пра адкрыцьцё затанулай антычнай Александрыі, увогуле пра падводную археалёгію (якая-ніякая падводная археалёгія ў Беларусі ёсьць). Калі працягнуць "пахавальную" тэндэнцыю кнігі, прыгадайма багаты курган палавецкага хана ва Ўкраіне. З той жа лініі — нядаўна аднаўлены на падставе чэрапа зьнешні выгляд славутай княгіні зь Беларусі Алены Глінскай, пляменьніцы мяцежнага Міхаіла Глінскага, маці Івана Жахлівага. Маскоўскіх дасьледнікаў уразіў балцкі тып яе твару, што патлумачылі... польскалітоўскім паходжаньнем Глінскіх (арыгінальны погляд на беларускі род татарскага паходжаньня). Няма, нарэшце, пра пошукі славутага (віртуальнага?) скарбу Напалеона, што вядуцца з выкарыстаньнем найноўшай электроннай тэхнікі. Калі Мікола Крывальцэвіч вырашыць працягнуць сэрыю выданьняў пра "сэнсацыйную" археалёгію, абяцаю падзяліцца мэмуарамі, як знайшлі Нясьвіскі скарб. Зямелька наша багатая...

**Валеры Пазьнякоў**

## КРЫВОЮ МОВАЮ ПРА ЗАЛАТАВУСНАГА

Пішу Вам з нагоды наступнай. Трапіла да мяне кніга Алеся Марціновіча "Златавуст з Турава" (Мінск, Юнацтва", 2000) і моцна мяне ўразіла. Словаў беларускіх нармальных у кнізе мала. Такой зрусіфікаванай ды зьнявечанай мовай толькі на БТ і гавораць. Літаральна кожная старонка ўтрымлівае штосьці кшталту: тамашнія, серабро, заблудзіўся, рыжы, мінута, грабіць, умудроны, удасца (што зрабіць)... Тэкст чалавека, які ня думае па-беларуску, а толькі піша час ад часу.

"Мова свая непаўторная" (гэта адзін з артыкулаў гэтай кнігі).

**Усевалад Сыцебурака**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Г.Малажай, В.Красьней. **Алімпіяды па беларускай мове**: Дапаможнік для навучэнцаў агульнаадук. школ, гімназій і ліцэяў. - Менск: ТДА "Аверсэв", 2000. - 240 с. - Наклад 5000 ас.

С.Рублеўскі. **Апостраф**. Тэксты аб праявах быцьця. - Менск: ТАА ПП "Асобны дах", 2000. - 216 с. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-6356-33-4

*Віцебскі літаратар з тэкстаў аб праявах свайго быцьця спрабуе скласьці партрэт краіны канца XX ст.*

**Беларуская камэдыя**: Для сяр. і ст. шк. веку / Укл. Н.Семашкевіч. - Менск: Мастацкая літаратура, 2000. - 382 с. - Наклад 4000 ас. ISBN 985-02-0064-2

*У зборнік увайшлі найлепшыя камэдыйныя творы беларускіх майстроў сьмяшлівае п'есы: Л.Родзевіча, Янкі Купалы, В.Дунін-Марцінкевіча, Каруся Каганца, Ф.Аляхновіча, А.Макаёнка, Міхася Чарота, Віталя Вольскага, Кандрата Крапівы. Каштуе 500 р.*

У.Навумовіч. **Беларуская літаратура**: Навучальны дапаможнік. - Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. - 335 с. - Наклад 8000 ас. ISBN 985-09-0342-2




*У кнізе папулярна выкладаецца гісторыя беларускае літаратуры ад старажытнасьці да сёньня. Дапаможнік, рэкамэндаваны да ўжытку Міністэрствам адукацыі, мае скласьці канкурэнцыю гэткага сама кшталту кнігам В.Старычонка. Цана 1 т.р.*

**Беларускі гістарычны зборнік**. № 14 / Пад рэд. А.Мірановіча. - Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2000. - 244 с. ISSN 1232-7468

*З.Караў і С.Дубавец пішуць пра палітыку расейскага царызму й фармаваньне аблічча гістарычнае мінуўшчыны Беларусі ў расейскай гістарыяграфіі дарэформавага пэрыяду. С.Яцкевіч дасьледуе палітыку савецкіх улад дачынна нацыянальнага школьніцтва ў Заходняй Беларусі ў 1939-41 гг. Г.Глагоўская публікуе аўтабіяграфію віленскага мастака й грамадзкага дзеяча Пётры Сергіевіча ў польскім перакладзе з камэнтарамі. А.Вабішчэвіч дасьледуе жыцьцё беларускага палітыка й публіцыста 1-е траціны XX ст. Аляксандра Цьвікевіча. У зборніку мноства іншых матар'ялаў. Наконт набыцьця дамаўляйцеся праз электронную пошту: niwa@kurier-poranny.com*

**Гісторыя Беларусі**. У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засяленьня да сяр. XIII ст. / Рэд. калегія: М.Касьцюк (гал. рэд.) ды інш. - Менск: ВП "Экапэрспэктыва", 2000. - 351 с.: іл. - Наклад 10000 ас.

*Аўтары - акадэмікі й кандыдаты навук, таму іхнае супольнае дасьледаваньне можна ўважаць за акадэмічнае. Аднак у цяперашніх варунках выданьне такой кнігі пад тытулам Акадэміі навук немагчымае. Рэдактары першага тому - Міхась Касьцюк (галоўны рэдактар, колішні дырэктар Інстытуту гісторыі НАНБ), Міхась Чарняўскі й Георгі Штыхаў. Сярод аўтараў - Э.Зайкоўскі, А.Іоў, Л.Калядзінскі, М.Крывальцэвіч, М.Клімаў, Я.Зьвяруга, С.Тарасаў ды інш.*

**Гісторыя Беларусі**: Навучальны дапаможнік. У 2 ч. Ч. 2. Люты 1917 г. - 2000 г. / А.Новік, Г.Марцуль, Э.Забродзкі ды інш.; Пад рэд. А.Новіка, Г.Марцуля; 2-е выд., перапрац. і дап. - Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. - 464 с. - Наклад 4000 ас. ISBN 985-09-0352-X

*Працяг тэндэнцыйнага гістарычнага "дасьледаваньня". Каштуе 4 т.р.*

Я.Юхо. **Гісторыя дзяржавы і права Беларусі**: Навучальны дапаможнік / У 2 ч. Ч. 1. - Менск: Рэспубліканскі інстытут вышэйшае школы Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, 2000. - 352 с. - Наклад 3000 ас. ISBN 985-6299-39-X

*Прафэсар Я.Юхо перапрацаваў свой падручнік, выдадзены на пачатку 1990-х гг. У першай частцы разглядаецца паўстаньне й развіцьцё праўна-палітычнае культуры ў Беларусі ад зьяўленьня першых дзяржаў на абшарах краю да 1917 г. Каштуе 2,5 т.р. Кніга мае тонкую вокладку й дрэнна склеена.*

**Кур'ер**. № 1 (4), студзень 2001 г. - Менск, 2000. - 48 с.: іл. - Наклад 5300 ас.

*Папярэднія нумары часапісу выйшлі ў сакавіку, траўні й верасьні 2000 г. У першым сёлетнім выпуску чытайце развагі й аналітычныя артыкулы пра кандыдата, альтэрнатыўнага цяперашняму кіраўніку краіны, нарыс найноўшае гісторыі Беларусі апошняга дзесяцігодзьдзя XX ст., "пасквіль на ўплывовую асобу" (Міхала Мясьніковіча) аўтарства Аляксандра Фядуты. Юры Дракахруст разважае ў сваім артыкуле "Калі вы гэткія разумныя" пра ролю й долю беларускае савецкае інтэлігенцыі. Супрацоўнік "Советской Белоруссии" Сяргей Крапівін піша пра невядомыя старонкі гісторыі беларускае мытні ў 1920-я гг. Цана часапісу ў шапіках "Белсаюздруку" не зьмянілася з пачатку 2000 г. - 300 р.*

Я.Колас. **На ростанях**: Трылёгія: Для ст. шк. веку. - Менск: Мастацкая літаратура, 2000. - 704 с. - (Школьная бібліятэка). - Наклад 31000 ас. ISBN 985-02-0149-5

*Праграмны твор вялікага песьняра каштуе ў менскіх кнігарнях 274 р.*

**Віктар Мухін**

у працяг палемікі

# Пра беларускую філязофію — 2,

## *альбо "рэпартаж з задворкаў гуманітарнай прасторы"*

**Распачынаючы дыскусію з В.Булгакавым пра "беларускую філязофію", я й ня думаў пра далёкасяжныя высновы. Тэкст пра "сэкундарныя дыскурсы" пісаўся лёгка і весела, у сьціплай пакоры, як пэўнага кшталту пародыя на "інтэлектуальныя спэкуляцыі з сацыяльным рэзанансам", якіх апошнім часам сталася ў беларускай прэсе зашмат. Мне было цікава павярнуць гэты "інтэлектуальны інструмэнтар" супраць саміх "спэкулянтаў", якія ўжываюць яго ў наіўнай веры ў тое, што ахвяры іхных спэкуляцыяў будуць сядзець ціха і ліць гаручыя сьлёзы крыўды. Альбо ім ня будзе дзе адказаць. Альбо нават калі й дадуць слова ў адказ, дзеля прыстойнасьці, "спэкулянты" тут жа дадуць "адказ у адказ", у якім паспрабуюць з вас зрабіць ідыётаў яшчэ большых. Напрыклад, адправяць вас "у творчы крызыс на задворкі гуманітарнай прасторы". Дзе ў вас ёсьць поўнае права на далейшую "маргіналізацыю".**

**Гэта самае зрабіла "Наша Ніва" ў прамінулым нумары, патрактаваўшы мой *адказ на крытыку ў якасьці самой крытыкі*. І тут я зразумеў, што самы час рабіць славутыя далёкасяжныя высновы пра задворкі і пра тое, што мы там.**

### ЗАДВОРКІ

Першая добрая навіна: задворкі чакаюць нас усіх – ня толькі незалежную беларускую культуру, але й культуру залежную, і нават культуру як такую. І гэта зусім не загана, а яе рэальнае месца ў сучаснай цывілізацыі, а таксама праява нутраной сутнасьці культуры, што можа быць і адбывацца толькі там, дзе ёсьць свабода. А, вядома, чым далей ад цэнтру, тым болей свабоды. У цэнтры ж застануцца мэнэджэры, маніпулятары, палітыкі і журналісты – тыя, каго Мілан Кундэра ў свой час назваў "імаголягамі". Задачай гэтых людзей будзе не стварэньне культуры, ня творчасьць і ня мысьленьне – а адбор і вызначэньне таго, што для шырокіх (альбо вузкіх) народных масаў будзе асацыявацца з "культурай". Гэты адбор і вызначэньне ня мае анічога супольнага з "старамоднымі" ідэямі сумленнага аналізу альбо культурнай крытыкі. "...Калі ў час, калі я пішу гэтыя радкі, усе вырашаць, што Марцін Гайдэгер мусіць быць патрактаваны як псыхапат і паршывая авечка, дык гэта не таму, што ягоныя ідэі непераўзыдзеныя іншымі філёзафамі, а таму, што на імалягічнай рулетцы ён стаўся ў дадзеную хвіліну пройгрышнай лічбай, антыідэалам", – пісаў Кундэра ў "Несьмяротнасьці". Ён меў рацыю - менавіта гэта і здарылася ў свой час з Гайдэгерам...

### КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Калі на пачатку 90-х некалькі генэрацыяў уклаліся ў пабудову інфраструктуры свабоднай і незалежнай беларускай культуры, яны спадзяваліся заснаваць тэрыторыю свабоды, вольную ад цэнзуры і ад прымусу. Утопію творчага суіснаваньня асобаў, тэкстаў, кірункаў. У першай палове 90-х здавалася, што гэтая ўтопія амаль уцялесьнілася: кнігі, часопісы, падзеі шчыльна перапляталіся, жыцьцё смакавала, нават дзяржаўная культура трансфармавалася і абнаўлялася: паўставалі "ЗНО", някляеўская "Крыніца", "ЛіМ" яшчэ друкаваў Акудовіча... Потым прыйшоў Лукашэнка, і ўтопія ператварылася ў руіны. Для больш эфэктыўнага кіраваньня гэтымі руінамі прыйшлі імаголягі.

(...)

Вось ужо год "Arche" справядліва інфармуе беларускага чытача, што яны ў цэнтры, а ўсе астатнія на задворках. Мы гэта ведаем. Мы радыя за вас, калегі.

### ПАЗЫТЫЎ

Чым далей ад цэнтру, тым больш свабоды. Нас там чакаюць нашыя ненапісаныя раманы і недадуманыя думкі. Там нашая радзіма – Каралеўства Беларусь.

**Ігар Бабкоў**

водгук

# Рэфлексіі і рэфлексы

Падобна, што філязофскі дыскурс Беларусі пачаў набываць новыя, дагэтуль невядомыя ў гісторыі філязофіі рысы. У якасьці рабочай прапаную даць яму назву "пячорнага дыскурсу".

Новы праект распачынаецца зь пячорнага дыягназу, які В.Булгакаў ставіць сучасным беларускім інтэлектуалам на старонках аднаго з нумароў "ARCHE". Далей – пячорная рэцэнзія на 7-мы нумар "Фрагмэнтаў" у часопісе "ARCHE-Скарына". Усё вышэйпералічанае, у сваю чаргу, выклікае ня менш пячорную рэакцыю з боку філёзафа І.Бабкова. І ўжо амаль як рэфлекс – тутака ж, у "НН", зьяўляецца адказ В.Булгакава на такім жа самым "пячорным узроўні".

У Плятона мэтафара пячоры азначала такі стан чалавечае душы, калі яна яшчэ сьляпая, неразумная і таму несвабодная. Але чалавек мае шанец паступова выйсьці зь пячоры на сьвятло (прыклаўшы пэўныя намаганьні ўласных волі й розуму) – у сьвет чыстых вечных ідэяў, сузіраньне якіх – найвышэйшыя веда, шчасьце і свабода. Дасягнуць такой веды здолеюць тыя, хто стаў на шлях філязофскага пазнаньня.

Таму занадта доўгае знаходжаньне філёзафаў у пячоры, цалкам прысьвечанае іх унутраным пячорным разборкам, можа паставіць пад пагрозу ўсё філязофскае мысьленьне Беларусі, якое, нарэшце, пачало нараджацца і набываць сваё адметныя рысы.

**Pite KANTrap, Менск**

**P.S.** Ад філёзафаў мы чакаем рэфлексіяў, а не рэфлексаў.

дыскаграфія

## "MY ANGEL". ГУРТ "КАМЭРАТА". (P) 2000.




Руплівае вывучэньне ўсялякіх пазнакаў — як на вокладцы, так і на самім дыску — дазволіла мне вызначыць, што другі CD у сваёй біяграфіі "Камэрата" вырабіла за мяжой. Тыражаваўся альбом няйначай, як у Варшаве, на даволі вядомай фірме "ТАКТ", а дызайн быў зроблены Зьмітром Мілаванавым, які каторы год у той Варшаве працуе.

Няма сумневу, што час, які аддзяляе першы дыск "Камэраты" "*Снега, снега...*" ад другога, жыватворна паўплываў на творчасьць калектыву. Што праўда, агульная працягласьць гучаньня гэтага альбому ганебна малая для фармату, горда званага CD (усяго толькі 39 хвілінаў), але гэта толькі яшчэ раз пацьвярджае той факт, што "Камэрата" здольная за мінімальны час зрабіць столькі, колькі ніводная Зэмфіра ня зможа ўціснуць ува ўсе свае альбомы разам узятыя.

Запіс быў зроблены ў Мазыры. На CD патрапіла 8 кампазыцыяў, вытрыманых у самай рознай стылістыцы. Разам яны складаюць запамінальны партрэт калектыву зь непаўторнай манерай выкананьня, прыёмамі аранжаваньня і сродкамі ўвасабленьня матэрыялу. Надзвычай тонкае правядзеньне галасоў у песьні "Як пад гаем", раскоша вакальнага баляваньня ў песьні "Сокал", выключна беларускае і разам з тым звышсучаснае прачытаньне тэмы "Броўкі мае", шаманская, язычніцкая вэрсія, трэба думаць, народнай тэмы "Восеньская ночка". Не магу дакладна сьцьвярджаць, але, здаецца, усе тыя тэмы грунтуюцца менавіта на народных песьнях. Калі гэта ня так — тым болей браваў ды бісаў "Камэраце"! Бо ствараюць яны наскрозь беларускую музыку, і пазбыцца гэтага немагчыма нават пры ўсім на тое жаданьні.

Замежны, так бы мовіць, блёк альбому складаецца зь дзьвюх песьняў. Гэта "*Segudilla*" Вольгі Вераб'ёвай, вытрыманая ў такім модным цяпер стылі лаціны, і "*Bulgarian Fantasy*", ад якой вее лёгкім сумам па тых часох, калі трыё "*Bulgarians*" пляжыла гіт-парады сьвету сваімі балканскімі матывамі — калі, вядома, можна параўнаць супэрсучасны "Боінг" з дапатопным "кукурузьнікам". Іншымі словамі, "Камэрата" — гэта палёт па самай высокай траекторыі!

І як на час — апошняя п'еса альбому "Божае нараджэньне". Я цалкам падзяляю пачуцьці былога савецкага, а цяперака балгарскага саксафаніста Анатоля Вапірава, які, упершыню пачуўшы "Камэрату", папросту не паверыў, што ўся музыка робіцца выключна галасамі, безь ніякіх музычных інструмэнтаў. Тое, што робяць гэтыя сямёра, вытлумачыць з пункту гледжаньня галасавога апарату часам проста немагчыма. А яшчэ кажуць, што Беларусь — гэта толькі аднайменныя трактары. Скульля! Беларусь у музыцы — гэта перш за ўсё "Камэрата" і гэты альбом, які здольны зьбіць з ног ня толькі які "Мангэтэн трансфэр", але і Найтмэна з усёю хэўраю яму падобных бесьсьмяротных МакЛаўдаў. Павінен застацца адзін! А калі не — запісвайцеся ў майстар-клясу, пакуль месцы яшчэ маюцца!

**Камэральны слухач**

## "ЖЫВЕМ". АНСАМБЛЬ "ПЕСЬНЯРЫ". (P) 2000.

Гэты дыск — з шэрагу сюрпрызаў. Пра тое, што ў нетрах колішніх "Песьняроў" быў напісаны цыкл песьняў на вершы Ларысы Геніюш, было вядома даволі даўно. Гады з тры-чатыры таму мне нават надарылася паслухаць тую праграму на стужцы. Але тады да рэалізацыі праграмы ані на сцэне, ані на магнітнай стужцы справа не дайшла. Паводле чуткі, Уладзімер Мулявін, ухваліўшы зробленае гітарыстам Аляксандрам Кацікавым, пажадаў, аднак, каб праграма і лічылася праектам уласна Кацікава, а не "Песьняроў". Зразумела: як гэта дзяржаўны ансамбль будзе сьпяваць песьні на вершы ворага народу? Таму праграма павісла ў хісткім ідэалягічным паветры і матэрыялізавалася толькі цяпер, на грошы ўжо "*Белорусских песняров*". На адваротным баку вокладкі слухачоў нават папярэджваюць, што альбом ня варта разглядаць як чарговы дыск "Песьняроў". Але скажу адразу: свайго слухача ён знойдзе.

Вось толькі ня варта чакаць ад яго нейкіх адкрыцьцяў. Аляксандр Кацікаў разьлічваў на дапамогу тых "Песьняроў" і напісаў музыку, якая практычна не выходзіць за межы звыклай стылістыкі ансамблю. Музыка традыцыйная, а вершы Ларысы Геніюш — гэта выключна лірыка, у дачыненьні да якой нават акулярысты ідэалягічны камар носа не падаткне. Добрыя, ціхія, прыгожыя вершы (адна зь песень альбому напісаная на словы Валянціны Аколавай). "Краю мой родны" заспяваў сам Уладзімер Мулявін. У астатніх саліруюць Ігар Пеня, Алег Казловіч, Валеры Дайнека, якіх мы сёньня ведаем як "БП". Ёсьць і адмыслова запрошаныя музыканты — гітарыст Уладзімер Ткачэнка, саксафаніст Ігар Люты, піяніст Алег Молчан, гітарысты Аркадзь Іваноўскі і Віктар Малчанаў.

Цікавы факт: тэксты да альбому надрукаваныя па-расейску, тэксты песень — як тое пісала паэтка. Можна пашкадаваць, што яскравых мэлёдыяў тут няма, а як творы асобна ўзятыя найперш запамінаюцца "Ой, пайду" (дзякуючы ўдалай рытмічнай аснове) і проста "Песьня" — найлепшы твор праграмы.

Ва ўсякім разе, ініцыятар стварэньня праграмы, кампазытар ды аранжавальнік Аляксандр Кацікаў выступае тут, згадзіцеся, у нечаканай ролі. У "Песьнярох" ён успрымаўся як адзін з многіх, а тут — як сапраўдны творца, у пэўным сэнсе нават як герой: у часы агульнага ідэалягічнага ачмурэньня выдаць праграму на вершы паэткі, якой дагэтуль не прабачыла ўлада, — сапраўдны ўчынак.

А яшчэ — сьведчаньне таго, які з калектываў жыве, а які... Ой, калядачкі, блін!..

**Беларускі слушацель**

фільмаграфія

# Усе жывыя

## "СЬЛЁЗЫ БЛУДНАГА СЫНА", "САЛОДКІ ЯД КАХАНЬНЯ". ФІЛЬМЫ З УДЗЕЛАМ ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА. (P) "БЕЛАРУСКІ ВІДЭАКЛЮБ", 2000.




"Беларускі відэаклюб" робіць тое, чым насамрэч павінна была б займацца дзяржава яшчэ пры спазналым момант ісьціны міністру культуры Сасноўскім і пры цяперашнім міністру Гуляку. Убухаць гэткія сродкі на падтрымку расейскага кіно і асабіста таварыша Сямагі — трэба мець сапраўды дзяржаўны розум. Знайсьці хоць нейкія грошы на падтрымку нацыянальнага кіно маштабы дзяржаўнага мысьленьня, пэўне, не дазваляюць. Што ж, будзьма мысьліць у катэгорыях больш прыземленых, затое — рэальных.

Новая відэакасэта ад "Беларускага відэаклюбу" напэўна не страсяне беларускай кінаграмадзкасьці. Ды на фоне амаль поўнай адсутнасьці беларускага кіно на відэакасэтах гэтае выданьне не заўважыць нельга. Зь некалькіх прычынаў.

Па-першае, нараджэньне абодвух фільмаў так ці інакш зьвязана зь імем Віктара Дашука: калі першы зь іх зьняты вучнем знанага рэжысэра, дык другі проста пазначаны ягоным імем. Па-другое, абодва яны не былі шырока паказаны з часоў іх стварэньня (1995 і 1996 г. адпаведна). Па-трэцяе, у абодвух фільмах у цэнтры — актор, музыка і выканаўца Віктар Шалкевіч, якога асобна прадстаўляць таксама ня трэба. Ён — зь ліку тых творцаў, якія здольныя завалодаць увагай аўдыторыі, хоць праца ў кіно — не асноўны ягоны занятак. Тым больш фільмы тыя інтрыгуюць.

Мушу прызнацца: у рэальнасьці, пасьля прагляду касэты, інтрыгі значна паменела.

Першая стужка зьнятая паводле сцэнару рэжысэра Віктара Асьлюка і гісторыка Генадзя Сагановіча. Па форме гэта своеасаблівая прыпавесьць, зьмест якой зьвернуты да розуму і пачуцьцяў тых, хто так і не зрабіўся "савецкім народам". Бо савецкія людзі сэнс той прытчы наўрад ці зразумеюць. Варта згадаць, што фільм здымаўся гадоў шэсьць таму, калі на розумы людзей можна было паўплываць праз публіцыстыку, праз жывы зварот да рэшткаў шэрага рэчыва. Тады тое ўзьдзейнічала. Сёньня ж, на маю думку, такі прыём лабавога ўдару выніку ня мае. Людзі ў масе сваёй зьнявeрыліся і не адгукаюцца на пункцыю мазгоў нават без агульнае анэстэзіі. Добра, гожа зьняты фільм, мне здаецца, у нашыя дні ўспрымаецца або зь нейкім недаверам, або са скепсысам. Ён пры тым напэўна ня страціў моцы для тых, хто адарваны ад рэальнай хады часу, жыве ў адрыве ад інфармацыйных патокаў. Для тых жа, хто біўся за прынцыпы, даверваў лідэрам і расчараваўся ў іх, фільм, бадай, ня больш, чым проста напамінак пра тое, што ёсьць і такое вось беларускае кіно, стваральнікі якога ня страцілі сумленьня ды прафэсійнасьці. Вось чаму "Сьлёзы блуднага сына" павінны трапіць туды, дзе кіно наагул паказваюць рэдка. Менавіта там гэты фільм яшчэ мае шанцы канкураваць зь якім "Моцным арэшкам". У горадзе — наўрад. Бо час занадта хутка плыве...

Віктар Шалкевіч тут выступае ў ролі пэўнага сымбалю, сэнсавай зьвязкі паміж эпізодамі. Вырашаць нейкія мастакоўскія звышзадачы ад яго наўрад ці патрабавалі. Хапіла запамінальнага выгляду, сапраўднай магічнасьці позірку. Фільм адпавядае жанравай задачы, і я не выключаю, што на пэўным моманце развіцьця (прабачце!) нашага грамадзтва, у пэўнай сытуацыі ён можа нібыта амаладзіцца, прабіць шкарлупіну мазгавых арэхаў і стрэліць дакладна ў "дзесяць". Сёньня ж, яшчэ раз паўтару, ён здольны змусіць задумацца толькі нямногіх...

"Салодкі яд каханьня" (48 хв.) зьняты Віктарам Дашуком і апэратарам Уладзімерам Спарышковым (годная ўвагі работа!). Гэта ўжо цалкам гульнёвая стужка, у якой Віктар Шалкевіч мае куды больш працы ў простым і пераносным сэнсах. Ён выконвае тут дзьве ролі — экскурсавода па Нясьвіскім замку і ўласна караля Жыгімонта, які гэтак палка любіць Барбару Радзівіл. Гісторыя іх каханьня заслугоўвае, безумоўна, больш маштабнай кінапрацы. Гэтая ж — у пэўным сэнсе фрагмэнтарная, павярхоўная і далёка не заўсёды здольная пераканаць нават простага аматара "Санта-Барбары" (не Радзівіл!). Шаноўны Віктар Дашук, на маё глыбокае перакананьне, пралічыўся з выбарам выканаўчыні ролі Барбары: яна — ніякая! Так, прыгожанькая, маладзенькая, але неяк не нагадвае жанчыны, здольнай закрухыць галаву каралю. Задробная для гэтага. Ня ў тым сэнсе, што сьвякрусе Боне хлопнуў мухабойкаю — і няма гераіні, а ў тым, што дзяўчына ня здолела загрузіць ролю так, каб энэргетыка ад яе разьляталася пырскамі ў розныя бакі. І я так і не паверыў, што яна была чымсьці цікавая Жыгімонту як хоць бы, прабачце, калега па сэксе, калі толькі той у ВКЛ існаваў. Тым больш яна не была цікавая — такое ўражаньне — Шалкевічу, які, як і Жыгімонт, толк у кабетах, здаецца, ведае. Ня маючы адпаведнай партнэркі, Віктар, такое ўражаньне, так і ня здолеў сам разгарнуцца ва ўсю шырыню акторскага досьведу. І ў выніку атрымалася: крыху дэтэктыву, крышачку жахаў, кропля эротыкі, напал жарсьцяў на фоне гісторыі і муроў чамусьці аднačасова Нясьвіскага ды Мірскага замкаў — і маеш!

Зноў жа: тады, у 1996 г., фільм гэты напэўна атрымаў бы аўдыторыю. Бо яшчэ не загналі ў спэцсховы імкненьне больш даведацца пра сябе, што можна было рабіць у любой форме. Сёньня ж здымаць кіно, здольнае выціснуць сьлёзы з вачэй, прымусіць хоць бы задумацца, магчыма або толькі пры ўмове вар'яцкага, як на нашыя маштабы, фінансаваньня, або пры ўмове, што акторы спрацуюць так, быццам здымаюцца ў апошні раз, гатовыя памерці ў кожным кадры.

Жыгімонту ў гэтым фільме, здаецца, памерці проста не дазволілі (мусіў запісаць для радзімы яшчэ адзін альбом), Барбара памерці, на жаль, не была здольная. Віктар жа Дашук выступіць у ролі Боны Сфорцы не здагадаўся.

**Глядач**

водгук

# Слухачу

"Пра новыя выданьні культавых калектываў прынята пісаць зь піетэтам ды прыдыханьнем..." Але ж мусіць зьявіцца й хаця б адна зьнішчальная рэцэнзія сярод усіх станоўчых.

Вядома, рэцэнзэнт можа выказаць свае асабістыя меркаваньні, але выразы накшталт: "...можна нават альбому ўсяго ня слухаць..." (Слухач) або: "У "Сьвятым Вечары-2000", апроч трэку №2, амаль няма чаго слухаць" (В.Ластаўкіна) - гэта ўжо недвухсэнсоўныя парады. Ня слухайце, калі не разумееце, але й іншым не перашкаджайце!

Я згодная са Слухачом, што "іронія - гэта часам ці не адзіны сродак супрацьстаяць паскуднай у цэлым рэчаіснасьці". Але ён цалкам псуе ідэю ў наступным сказе: "Асабліва тады, калі з задуманага атрымліваецца далёка ня ўсё". Па-першае, не зусім зразумела, што Вы, сп.Слухач, гэтым хочаце сказаць. А па-другое, іронія ёсьць праявай цалкам станоўчай, бо вельмі важна ўмець сьмяяцца зь сябе. Мне здаецца, NRM іронія заўжды суправаджала.

Дарэчы, пра творчасьць NRM. Не хачу не праслаўляць, ня толькі таму, што ня дужа захапляюся падобнай музыкай гадоў пяць (век ня той), але й таму, што, магчыма, ня буду мець рацыі, як і Слухач са сваёй крытыкай. Адно хочацца сказаць: творчасьць гэткая - патрэбная. Я ня ведаю, якія мэты маюць "энэрэмшчыкі": сьвядома "нясуць мову ў народ", рызыкоўчы выклікаць хвалю абурэньняў "дарослых сур'ёзных людзей", ці папросту робяць тое, што ім самім падабаецца. Але ці ж гэта кепска, калі такога кшталту "папса" (даруйце, а што Вы разумееце пад словам "папса", сп.Слухачу?!) гучыць на айчынных FM-станцыях і які-небудзь падлетак гадоў 15-ці набудзе кружэлку NRM замест такіх сама модных "Мумія Тролю" альбо "Чычэрынай"? Добра, калі якая-небудзь дзяўчыначка сапраўды кіне плакаць, паслухаўшы песьню "Дзед Мароз" альбо нейкі хлопчык засьпявае "Тры чарапахі", шпацыруючы па вуліцы, балазе песьня дзеля гэтага прыдатная: вясёлая, дасьціпная, лёгка запамінаецца. Галоўнае ўсьвядоміць: для каго тая музыка. Напэўна ж не для Вас, сп.Слухачу!

Кожны мае пэўныя крытэры для вызначэньня "сапраўднае музыкі" (адмыслова бяру ў двукосьсе ня толькі як цытату, але й як тэрмін такі сама адносны, як і "рок-н-рол", "папса"). Я была б узрадавана, пачуўшы ў Беларусі па-беларуску штосьці ў манеры ангельскай COIL, вугорскай MASFEL альбо чэскай UŤ JSME DOMA (крый Божа, не капіяваньне), групаў, папулярных адно ў вузкіх колах як у сваіх краінах, так і ва ўсім сьвеце. Але я ня маю права сьцьвярджаць, што менавіта гэтая музыка - сапраўдная. Дарэчы, наяўнасьць прыгожае мэлёдыі - гэта добра, але не абавязкова (узгадайма Z'EV, THE RESIDENTS, PAN SONIC ды шмат іншых). А вось дзе вы напэўна ўжо знойдзеце прыгожую мэлёдыю, дык гэта на тым самым "Песьню загарніце з сабой".

Чакаеш ва ўлюбёнай газэце рээнзіі на сольнік Івана Кірчука (а зьяўляецца... на "Івана Купалу"). Не дачакаліся мы рэцэнзіяў на альбомы "Тройцы" ды "Юр'і"; на праекты "Я нарадзіўся тут", "Каляды. Рожство. Шчодрэц" і на новы праект З.Лук'янчыка. а ўжо пра такія рэчы, як "Паддашша" і казаць няма чаго (у "Навінках", дарэчы, рэцэнзія была). Калі Слухача "дастала тая рок-н-рольная канцэптуальнасьць", дык мушу абвясьціць, што мяне ўрэшце дастаў Слухач.

А што да рэцэнзіяў, дык, на мой погляд, найбольш прыдатныя яны ў Віктара Мухіна (не музычныя, праўда, а кніжныя), дзе журналіст папросту абвяшчае: выдалі, маўляў, нейкую кнігу, зьвярніце ўвагу. Пра штосьці больш падрабязна, пра штосьці - у два словы. Але бязь лішніх эмоцыяў ды без кіраўніцтва да дзеяньня.

**Вольга Муская, Віцебск**

## мэдыі

### Дыпляматы!

Віцэ-прэм'ер ды міністар замежных справаў Міхал Хвастоў выйшаў на тэлеэкран, і гэта была "Падзея". Прамаўляў ён па-расейску, хаця беларускую ведае няблага. Але ж пытаньні "дзяжурналіста" БТ былі расейскамоўнымі, таму даруем міністру. Як той казаў — мялі, Мялешка, твая ляпешка.

Мялешка спытаўся Хвастова, ці не шукае Масква свайго новага стаўленіка перад беларускімі прэзыдэнцкімі выбарамі. Міністар адказаў, што з размоваў з расейскім калегам Івановым такога не адчуў, а потым узяў ды заявіў. "Па-мойму, вынік прэзыдэнцкіх выбараў — ён зразумелы".

Тут і праграма скончылася: во што значыць сапраўдны прафэсіяналізм! Пераможа Лукашэнка − Хвастоў скажа, што нават у цяжкія часы нізкага рэйтынгу прагназаваў ды каваў перамогу. А прайграе − можна будзе заявіць, што яшчэ ў студзені прадбачыў ганебны зыход дыктатуры.

Зьлятаўшы ў Маскву самастойна ды распавёўшы пра гэта ў "Падзеі", праз тыдзень сп.Хвастоў − каб не пайсьці на прыём да кіраўніка КНГ АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка — паляцеў туды ж разам з Лукашэнкам адкрываць дні культуры Беларусі, што фінансаваліся газавай фірмай "Ітэра", дзе цяпер працуе просты беларус Іван Ціцянкоў.

БТ не абмежавалася паказам таго, што разам зь міністрам культуры Расеі Швыдкім ды кіраўніцаю МХАТу Даронінай такі самы мэдаль Францішка Скарыны атрымаў проста культурны й вельмі дыпляматычны чалавек Ігар Макараў, прэзыдэнт "Ітэры". Ужо ў першым рэпартажы з Масквы аб прылёце Лукашэнкі буйным плянам прадэманстравалі журналісцкі блякнот з сымболікаю "Ітэры". Гэта ледзь ня першы выпадак на БТ, калі схаваную тэлерэкляму, ці, па-маскоўску, "джынсу", уставілі ў афіцыйны сюжэт пра Лукашэнку.



Яшчэ адна піараўская акцыя атрымалася на наступны дзень. У "Панараме" пасьля кадраў, дзе паказвалі, як на ўваходзе ў Міністэрства ўнутраных справаў ляжыць зьбіты аховаю журналіст Валеры Шчукін (хоць камэнтар быў проста ганебны для калегі-журналіста, аднак нармальны для новага службоўца БТ Юркі Пракопава), пайшоў чарговы сюжэт Алены Ладуцькі з Масквы. Як заўсёды, БТ скрала відэакарцінку з РТР, замазаўшы лягатып апошняга, а сама Ладуцька верашчала тэлефонам − як заўжды, па-расейску. Напэўна, грошай на нармальны тэлеперагон з братняе Масквы не хапіла. Але ж дыктарка Ларыса Грынько знайшла выйсьце: прынесла прабачэньне за якасьць гуку, што магла быць лепшай, ды патлумачыла: "Проста Алена Ладуцька перадавала па тэлефоне".

А то мы думалі — па факсе (простым або інтэр-...) ці праз пэйджэр. Дыпляматку Грынько не пераробіш.

### Асьцярожна — трансформэры!

Прыкольная газэта *"Советская Белоруссия"* мае ня толькі прыкольную назву, але й вартыя яе загалоўкі. "Гондолы на приколе" − пра спыненьне руху на каналах Вэнэцыі. Або першапалосныя загалоўкі пад адной рубрыкай "В стране", калі іх чытаць не паасобку, а запар. Скажам, "Осторожно − мясо! Чистая работа − Разные судьбы". Або яшчэ: "Дома-трансформеры. С точностью до градуса − Смерть в подвале". Побач на першай старонцы інтэрвію з выбаркамаўкай Ярмошынай: над ейным фота − словы "Хочешь − значит можешь!" На другой старонцы таго ж нумару за пятніцу − фатаздымак чаргі ў абменны пункт ды загаловак: "Финансы не любят суеты".

### Да "братанскай" амбасады!

Цікавая лінгвістычная знаходка атрымалася ў кіраўніка прэсавага цэнтру Пракуратуры Беларусі Аляксея Таранава ды газэты "Чырвоная змена". Паведамленьне пра трох жыхароў Полацку, якім інкрымінуецца арганізацыя ўзброенае банды разам з чатырма жыхарамі Расеі, мае загаловак: "Разам з "братанскай" Русьсю".

Па-першае, цяпер ёсьць гімн новых беларусаў, што інтэгруюцца з новымі расейцамі: "Мы, беларусы, з братанскаю Русьсю..." А недзе ў сярэдзіне тэксту − радкі "Але ад тайгі да "братанскіх" да мораў Пінжак наш чырвоны й круты нораў".

Па-другое, калі вы ў часе дэманстрацыі апазыцыі пачуеце заклік "Да "братанскай" амбасады!", гэта ня значыць, што трэба йсьці да ангельцаў на Маркса, 37. На ўвазе маецца расейская амбасада на Старавіленскай, 48.

### Мэрскі алькагалізм ды прыхадні з космасу

Дасьціпныя журналісты працуюць у газэце "Вечерний Минск" што нібыта выдаецца на расейскай ды беларускай мовах, калі верыць штодзённаму надпісу ў канцы апошняе старонкі. Пад рубрыкай "*В Мингорисполкоме*" надрукавалі загаловак "*Почему люди пьют и прогуливают?*". А побач — інтэрвію з дырэктарам "Менскіх тэлевізійных інфармацыйных сетак" Ю.Васілеўскім.

Пытаньне журналіста: "*Вы казалі пры нашай сустрэчы ў пачатку 2000 г., што касьмічныя прыхадні ўвайшлі ў 150—160 тыс. кватэраў менчукоў розных рэгіёнаў гораду. А што маем сёньня?*" Адказ: "*Кабэлявана каля 190 тыс. кватэраў менчукоў*".

**Зьміцер Каляradзкі**

### Пэрліны «Белорусской газеты»

Уладзімер Валанін у «Белорусской газете» рашуча падтрымлівае ідэю вылучэньня Крамлём Уладзімера Мацкевіча ў якасьці кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі. Аналізуючы розныя аспэкты такога варыянту, ён пры канцы задумваецца і пра тое, як паставіцца да такога вылучэньня незалежнае беларускае грамадзтва. «Наконец, в-пятых - отношение к Мацкевичу местной оппозиции. Понятно, что «невменяемые» тут же начнут истерически вопить о кагэбешном заговоре. С остальными же вполне можно договориться», — піша ён так, каб быць зразумелым для сваіх маскоўскіх чытачоў. Цікава толькі, чаму ягонае выданьне дагэтуль называецца «Белорусской», а не «Местной газетой»?

**Лёнік Кінкель**

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Віншуем маму Сьвету і тату Міхася** з нараджэньнем яшчэ аднаго беларуса. Крысьціна і Уладзімер Пучынскія, Наста Бакшанская

**Казіку!** З нараджэньнем брацікa! Гуляймася разам! Максім і Барбара

**Беларускі дзіцячы садок** віншуе сям'ю Фяськовых з нараджэньнем другога сына! Так трымаць!

**Каханая мая Марына!** Віншую цябе са сьвятам. Усяго табе самага лепшага. Твой Яўген!

**Віншуем Беларускі нацыянальны ліцэй** і сп.Коласа з 10-ай гадавінай пасьпяховага змаганьня! I курс, 12 група

**Раднулечка каханая!** Віншую са сьвятам, здароўя, згоды з сабою, дабрабыту. Сьвет безь цябе − шэрасьць. Aleh

### дзедаўшчына

**Дасьледуюцца** праблемы "дзедаўшчыны" ў войску. Чакаю адпаведнай інфармацыі з Вашага досьведу. А/с 30, г.Гомель, 246015

### друкарка

**Куплю** невялікую друкавальную машынку. Т.: 544-20-53 (Заслаўе)

**Аддам ахвотным** старую папсаваную габарытную друкарку "Ятрань". Транспарт намаганьнямі ахвотных. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### запрашэньні

**Людзі!** Заходзьце на www.taktaktak.bizland.com. Гэта файна! Алесь − так! трымаць! Massimo

**Спадары свабодаўцы**, хто стаяў ля вытокаў BPS, вы патрэбны для партыі. Вяртайцеся, Высоцкага больш няма. Сябра BPS

**Вялікалітоўскі форум "Вострая Брама"** запрашае да дыскусу на розныя тэматы будучага й былога ВКЛ і Літвы. Слава Літве! http://www.geocities.com/vilnia2000/

### ідэі

**Сьвета і Міхасю!** А можа, усё-ткі Міронам?

**Слухачу!** Калі б ты ведаў, як ужо дастала шырокае грамадзянскае гучаньне! Хочацца слухаць проста добрыя песенькі. Massimo

**Можна бясконца** выказваць павагу да Пазьняка, але трэба разумець, што супольны кандыдат павінен быць іншы. Пярэварацень

**Алесю!** Калпакоў прыехаў у Менск з Кемерава! Проста справа ў тым, што на НТВ усе журналісты − прафэсіяналы. Massimo

**Людзьмі звацца?** Даўно завёмся. А каму служыць? − застыглі лёкаі. Марцін Коўзкі

**Людзі! Без духоўнага ідэалу** чалавек ня можа вартасна жыць, распадаецца як асоба, губляе сэнс жыцьця. Аляксандар

**Ліцьвіне!** Адрадзі ў сабе сам колішнюю веліч Літвы! Будзь разам са сваімі Братамі!

### каляска

**Вазьму крутую каляску** для хлопца-немаўляці і пральную машыну-аўтамат. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### кантакты

Шаноўнае спадарства з Заходнепалескага навуковага таварыства **"Загародзьдзе"**! Адгукніцеся, калі ласка! Цікава даведацца пра вашую дзейнасьць. Тэл.: (017) 2647026 Вэраніка

**Алёна**! Выздараўлівай. Ты нам яшчэ патрэбная. Вельмі.

**Завяжу інтымна-дзелавое ліставаньне** зь беларускамоўнымі сьцервамі РБ па пытаньнях практычнае сьцервалёгіі. Скіргай. А/с 30, Гомель, 246015

**Запрашем да гуртаваньня** маладых беларусаў, цікаўных да паганства, этнічных штудыяў, народніцтва, ультранацыяналізму ды мэтапалітыкі. 220050, Менск, а/с 342

### клэрыён 7470

**Набуду панэль** да а/с Клэрыён 7470. Т.: 8-029-676-33-69

**Падпішы сябра! Грошы на падпіску бібліятэк перадаў ЛЕАНІД МАРАКОЎ зь Менску. Вялікі дзякуй!**

### кнігі

**Прадаю кнігі**: М.Коўзкі "Доля праўды", рэпрынтнае выданьне *"Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов"* А.Я.Багдановіча (1995 г.). Ад Вас капэрта. 224030, г.Берасьце, п/п № АВ0420164

**Прадам энцыкляпэдыю** "Этнаграфія Беларусі" (Мн., 1989). Т.: 207-15-13

**Набуду кнігі**: "Меншчына ў легендах і паданьнях" і першую кнігу "Беларускіх народных прыкмет і павер'яў". Т.: 249-23-25

### музыка

**Больш за сотню аўдыёкасэтаў**, кампакт-дыскі ды розныя кнігі беларускіх выдавецтваў можна замовіць на выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі. Выстава працуе ў Горадні штопанядзелка і серады з 17 да 20 гадзінаў па адрасе: вул.Маркса 11 (другі паверх)

**Шукаю якасны запіс** музыкі і песень зь фільмаў "Эманюэль" і "Вяртаньне Эманюэль". Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Шукаю музыкаў** для супольнай работы над маімі песьнямі. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### net

**"Сьвятая Дуброва − Балтыцкі Пяроспар"** — адзіны нэапаганскі, традыцыяналісцкі й мэтапалітычны сайт беларускага сеціва. www.dubrova.cjb.net

### прысяга

**Шукаю тэкст** нефармальнай "солдатской присяги" ўзьмежку 60-х-70-х гг. XX ст. у СССР. А/с 30, г.Гомель, 246015

### сотавік

**Прадам тэлефон** сотавы Бэнэфон Сыгма, 276... Т.: (8-029) 676-33-69

**Прадаю:**
Статут ВКЛ 1588 г., ЗПКіКБ (г.Менск, Менск. вобл. У 2 кн., Берасьц. вобл.); факс. выд. Кіеўскай Псалтыры 1397 г.; Зб. Тв. У.Караткевіча ў 8 т.; Энц. Дав. "Ф.Скарына"; Энц. Прыроды Беларусі ў 5 тт. Т.: 258-43-54

### Кошты на платныя прыватныя абвесткі:

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 105 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 132 руб.
— аформленая абвестка — 66 руб. за кв.см.
— аформленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 87 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка.
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.
Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.
**На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

***Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны і Таварыства Беларускай Школы***

*З мэтай забясьпячэньня канстытуцыйнага права грамадзянаў Беларусі на атрыманьне вышэйшай адукацыі па-беларуску патрабуем стварыць Беларускі Нацыянальны Ўнівэрсытэт.*

| № | Прозьвішча, імя | Адрас пражываньня | Дата падпісаньня | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |

Запоўненыя бланкі ТБМ і ТБШ просяць дасылаць на адрас: 220005 Менск, Румянцава 13. ТБМ. На сёньня сабралі ўжо 35 тысячаў подпісаў.

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________



## паштовая скрынка

**Жаўнеру.** «Праз прызму жаночых майткоў...» — натуралістычна, а жыцьця быццам бы не адчуваецца. Сярод бруду няма ў Вашым допісе красак, якія яго апраўдалі б. Ступень Вашай грэблівасьці «такая высокая, што адбываецца мала не адмаўленьне самога сэксу». Тэму салдацкага сэксу маглі б ажывіць іскрынкі беларускасьці. «Настальгічны гурток камандзераў» расьцягнуты.

**А.Жук-му.** Кашаровы фальклёр быў зьмешчаны на старонцы сатыры й гумару.

**Алесю Ш. з Барысава.** Артыкулаў зь іншых выданьняў мы звычайна не перадрукоўваем.

**А.Чачу.** Мы паставілі б у няёмкую сытуацыю Ніла Гілевіча, калі б во гэтак, не спытаўшыся ягонае згоды, вылучылі яго кандыдатам у прэзыдэнты.

**Віктару Ф. зь Менску.** Гэтым разам Вашы жарты, як той казаў, «з барадой». Шукайце сьмешнае ў падзеях бягучага тыдня.

НАША НІВА
незалежная газэта

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| заснавальнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| стыльрэдактар | Мікола Раманоўскі |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| адказны сакратар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3720.
Нумар падпісаны ў друк 21.1.2001.
Замова № 342.
Рэдакцыйны адрас. Менск, Калектарная, 20а/2а